

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# Лім
# Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4733) 6 верасня 2013 г.



## Пункцірам

✔ За значны асабісты ўклад ва ўмацаванне дружбы і супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Азербайджанам, у рэалізацыю беларуска-азербайджанскіх гуманітарных праектаў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў старшыню Вышэйшай атэстацыйнай камісіі пры Прэзідэнце Азербайджанскай Рэспублікі Арыфа Мехціева медалём Францыска Скарыны.

✔ Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія падпісалі дамову аб двухбаковым супрацоўніцтве. Подпісы пад дакументам паставілі Міністр культуры Барыс Святлоў і старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька. Дамова прадугледжвае сумесную дзейнасць у вытворчасці, распаўсюджванні і прасоўванні тэлепраграм у сучаснай медыяпрасторы. Узаемадзеянне будзе накіравана на захаванне і развіццё культурна-гістарычных традыцый і каштоўнасцей беларускага народа.

✔ У 2015 годзе тэлеканал «Беларусь 3» стане даступны ўсяму насельніцтву краіны — паведаміў галоўны дырэктар галоўнай дырэкцыі канала Віктар Маючы. Цяпер канал прымаюць 76 працэнтаў жыхароў. Гэта лічба будзе павялічвацца па меры адключэння аналагавага тэлебачання і ўводу лічбавага. «Беларусь 3» — тэлеканал Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, мэта якога — забяспечыць асвятленне дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі ў галіне культурнага жыцця краіны. Галоўная задача — шчырая размова на тэмы культуры.

✔ 5 верасня Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь распачаў 81-ы тэатральны сезон. Адбылася прэм'ера спектакля, які абяцае стаць сапраўднай падзеяй у культурным жыцці краіны, — нацыянальнага балета «Вітаўт» на музыку Вячаслава Кузняцова ў харэаграфіі Юрыя Траяна. Драматычны і стваральны лёс Беларусі, «залатое стагоддзе» беларускага Сярэднявечча і яго выбітныя дзеячы, подзвігі ў імя Радзімы, — такія галоўныя тэматычныя лініі новага спектакля, сярод стваральнікаў якога прызнаныя майстры сучаснай беларускай культуры.

✔ Восьмы фестываль «Моладзь — за Саюзную дзяржаву» пройдзе 15 — 20 верасня ў Растове-на-Доне. Яго галоўнай падзеяй стане конкурс выканаўцаў моладзевай песні. У праграме таксама вечар сяброўства моладзі Беларусі і Расіі, сустрэчы з папулярнымі эстраднымі выканаўцамі, канцэртная эстафета ў гарадах Растоўскай вобласці. Запланавана пасяджэнне Камісіі Парламенцкага Сходу Саюза Беларусі і Расіі па сацыяльнай палітыцы, навуцы, культуры і гуманітарных пытаннях з удзелам прадстаўнікоў органаў заканадаўчай і выканаўчай улады, грамадскіх моладзевых аб'яднанняў.

✔ Рэтраспектыўны паказ фільма «Дзікае паляванне караля Стаха» рэжысёра Валерыя Рубінчыка прайшоў у Рызе. Кінасеанс быў арганізаваны латвійскім інтэрнэт-выданнем Obskura, якое займаецца папулярызацыяй кінамастацтва краін Усходняй Еўропы на англійскай, рускай і іспанскай мовах. Кінастужка дэманстравалася з латышскімі субцітрамі. Яе паказ выклікаў вялікую цікавасць латвійскай публікі.

**Падрыхтавала Іна ЛАЗАРАВА**

*Фота Яўгена Пясецкага*



*Дыплом І ступені з рук намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Анатоля Тозіка і старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца атрымлівае пераможца конкурсу «Лепшы твор года» ў галіне краязнаўчай літаратуры Мікалай Барысенка.*

**Чытайце на стар. 8 ▶**

## Пытанне да творцы

# Што для вас значыць «Залаты Купідон»?



**Іван Саверчанка, літаратуразнаўца:**

— Узнагарода вельмі высокая: яна сімвалізуе прызнанне з боку калег-навукоўцаў, выкладчыкаў, літаратараў. Спадзяюся, што мая кніга «Паэтыка і семіётыка публіцыстычнай літаратуры Беларусі XVI — XVIII стст.» будзе запатрабаваная інтэлектуальнай супольнасцю краіны, паспрыяе больш глыбокаму разуменню вытокаў нацыянальнай культуры. Дапаможа сучаснай літаратурна-мастацкай і публіцыстычнай практыцы, удасканаліць працэс выкладання гісторыі беларускай літаратуры ў школах, гімназіях і ВНУ.

Урачыстае ўзнагароджанне літаратараў падчас Свята беларускага пісьменства — добрая і прыгожая традыцыя. Гэта красамоўнае сведчанне клопату дзяржавы пра духоўнасць, стымул для творцаў, дбанне пра развіццё нацыянальнай літаратуры і захаванне багатай пісьмовай спадчыны.



**Яўген Хвалей, празаік:**

— Вельмі прыемна было атрымаць «Залатога Купідона», да таго ж — з рук віцэ-прэм'ера. Рады, што мая кніга «Прынцэса тусоўкі» займела прызнанне не толькі школьнікаў. Я пабываў з ёй ва ўсіх абласцях рэспублікі, усюды было шмат пытанняў і дыскусій. Відаць, як кажуць, трапіў «у дзясятку», бо сапраўды мала ўздымаюць хвалюючыя пытанні пра стасункі бацькоў і дзяцей, дзяцей і настаўнікаў, з'явы наркаманіі, таксікаманіі і г. д. А матэрыял бяру з аповедаў сваіх дачок пра школу і аднакласнікаў. Цяпер яны ўжо дарослыя і далі мне ідэю твора, надрукаванага летась у «Полымі», — пра тое, як беларускія дзяўчаты шукаюць жаніхоў за мяжой («Вяселле на Кіпры»). У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да выхаду яшчэ адна мая кніга на моладзевую тэму.



**Васіль Макарэвіч, паэт:**

— Кожны, каго вылучалі на ўзнагароду, спадзяваўся яе атрымаць. І я таксама. Вельмі ўдзячны ўсім, хто галасаваў і прымаў рашэнне. Не тое, што я, так бы мовіць, набраўся імпэту. Імпэт з-за ўзнагароды можа, наадварот, пашкодзіць, «пагнаць пену» з-пад пяра. Іншая справа, калі ў чалавека папярэдне ёсць думкі, творчыя планы — тады, маючы прызнанне, ён адчувае сябе больш упэўнена. Увогуле, калі ў паэта ёсць хоць пару сапраўдных вершаў, людзі іх убачаць — раней ці пазней.

Міжнародны форум

# Кніжныя навінкі ад беларусаў

У сераду адкрылася 26-я Маскоўская міжнародная кніжная выстаўка-кірмаш, якая сёлета будзе працаваць да 9 верасня. Арганізатарамі прадстаўнічай экспазіцыі выступілі Федэральнае агенцтва па друку і масавых камунікацыях Расійскай Федэрацыі і Генеральная дырэкцыя міжнародных кніжных выставак і кірмашоў.

**Раіса МАРЧУК**

Гэты маштабны форум, у якім бяруць удзел выдавецтвы, кнігагандлёвыя арганізацыі, бібліятэкі, культурныя цэнтры з краін блізкага і далёкага замежжа, праводзіцца ў Расіі з 1977 года. Ганаровымі гасцямі Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу ў розны час выступалі Польшча, Францыя, Кітай, Украіна, Індыя, у 2010 годзе — наша краіна. Дарэчы, Беларусь заўсёды была адным з самых значных удзельнікаў гэтага аўтарытэтнага міжнароднага агляду. Сёлета ганаровы госць форуму — Венгрыя.

— Айчынныя кнігавыдаўцы прадставілі на кірмашы нацыянальны стэнд «Кнігі Рэспублікі Беларусь» і экспазіцыю «Выдавецкія праекты Саюзнай дзяржавы», — распавяла намеснік начальніка выдавецкай дзейнасці і гандлю Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь Таццяна Бунос. — Наша экспазіцыя дэманструе больш як 500 найменняў друкаванай прадукцыі такіх выдавецтваў, як «Беларусь», «Выдавецкі дом «Беларуская навука», «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура», «Аверсэв», «Пачатковая школа», выданні адкрытага акцыянернага таварыства «Белкніга», выдавецтва Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. На нашым стэндзе можна ўбачыць кніжныя навінкі па ўсіх тэматычных кірунках. Гэта вучэбная, вучэбна-метадычная, навуковая, навукова-папулярная, даведачная, энцыклапедычная і дзелавая літаратура, літаратурна-мастацкія выданні.

Беларускія кнігі, якія ўбачылі свет у выдавецтвах блізкага і далёкага замежжа, дэманструюцца на калектыўнай выстаўцы для дзяцей і падлеткаў на рускай мове. Экспазіцыя арганізавана Асацыяцыяй кнігавыдаўцоў Расіі і Клубам дзіцячай кнігі.

Члены беларускай дэлегацыі прысутнічалі на ўрачыстых цырымоніях уручэння ўзнагарод пераможцам расійскага Нацыянальнага конкурсу «Кніга года» і X Міжнароднага конкурсу «Мастацтва кнігі» дзяржаў — удзельніц СНД, а таксама актыўна ўдзельнічаюць у працы семінараў, нарадаў па пытаннях кнігавыдавецтва і кнігараспаўсюджвання, у шэрагу інфармацыйных сустрэч, «круглых сталоў», у іншых мерапрыемствах выстаўкі-кірмашу — зазначыла Таццяна Бунос.

# Садружнасць творцаў

**Сяргей ШЫЧКО**

На гістарычным факультэце Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта прайшла прэзентацыя «Літаратурнага альманаха», які пабачыў свет у Выдавецкім доме «Звязда» і выдадзены пры падтрымцы Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

Пад адной вокладкай сабраны творы ўдзельнікаў I Міжнароднага літаратурнага конкурсу маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Мост дружбы». Нашу краіну прадстаўляюць у кнізе Маргарыта Латышкевіч, Мікалай Андрэеў, Алёна Беланожка, Дар'я Вашкевіч, Вольга Чэркас. Творы расійскіх і беларускіх празаікаў пададзены на дзвюх мовах — рускай і беларускай. Перакладчыкам многіх тэкстаў выступіла Таццяна Сівец.

Падчас «круглага стала» ў МДУ размова ішла пра важнасць літаратурных стасункаў, пра тое, што творчасць маладых патрабуе падтрымкі. Вельмі цікавым атрымалася выступленне празаіка Валерыя Казакова, якога добра ведаюць і ў Маскве, і ў Мінску. Сваімі развагамі пра стан маладой літаратуры падзяліўся намеснік галоўнага рэдактара «Литературной газеты» Алесь Кажадуб. Пра новыя выданні, у якіх прадстаўлена творчасць беларускай моладзі, распавяла першы намеснік Міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч. Нашу краіну ў Маскоўскім універсітэце прадстаўлялі і аўтары «Літаратурнага альманаха» Алёна Беланожка і Маргарыта Латышкевіч. Вёў пасяджэнне «круглага стала» дырэктар – галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч.

# У сугуччы думак і слоў



*Выступае намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандр Казінцаў.*

Міжнародны «круглы стол» «Сугучча: мова і літаратура ў кантэксце гісторыка-культурнай спадчыны» адбыўся ў межах Дня беларускага пісьменства ў Быхаве. Дарэчы, яго госці не толькі наведалі гэты слаўны беларускі горад, пазнаёміліся з гісторыяй і сучаснасцю Быхава, завіталі на святочныя пляцоўкі, але і ўзялі ўдзел у вызначэнні лепшых чытальнікаў традыцыйнага ўжо дзіцячага конкурсу «Жывая класіка».

Падчас працы «круглага стала» прагучалі самыя розныя меркаванні, якія яднала адно — адчуванне «сугучча сэрцаў» усіх прысутных. Ад імя Міністэрства інфармацыі ўдзельнікаў прывітала першы намеснік Міністра інфармацыі Лілія Ананіч, якая падкрэсліла: «Сугучча — гэта тое, што ўласціва творчасці многіх пісьменнікаў, якія прысутнічаюць за гэтым «круглым сталом». Мы ўпэўніліся ў гэтым, калі сёлета Выдавецкі дом «Звязда» пачаў выпускаць прыгожую, магутную серыю кніг пад назвай «Сугучча сэрцаў». Гэта наш унёсак у тыя звёны, што яднаюць духоўную прастору краін СНД».

Творцаў найперш цікавіла, як у розных краінах адбываецца дзяржаўная падтрымка нацыянальных літаратур. На гэта адказаў Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў: «Культура — з'ява ўсеабдымная, але ў розныя гістарычныя перыяды яна паварочваецца да нас рознымі гранямі… Сёння, калі мы жывём у эпоху інфармацыі, на культуру ўплывае менавіта яна. Таму ў апошнія гады няма адасаблення паміж нашымі міністэрствамі. І пры падрыхтоўцы гэтага свята таксама адчувалася наша супольнасць».

Некаторыя творцы даўно сталі сваімі на Беларусі і да таго ж пастаянна спрыяюць распаўсюджванню інфармацыі пра нашу краіну і літаратуру за мяжой. Так, у часопісе «Сибирские огни», якім кіруе Уладзімір Бяразеў, пастаянна друкуюцца пераклады беларускіх аўтараў, «Наш современник» штогод выдае «беларускі нумар».

Праект Выдавецкага дома «Звязда» «Сугучча сэрцаў», у якім побач з самымі вядомымі аўтарамі краін СНД прадстаўлены беларускія творцы, уразіў гасцей і выклікаў жаданне далучыцца да гэтага супольнага працэсу. Невыпадкова госці з Украіны — намеснік старшыні Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны Уладзімір Даніленка і перакладчыца ды пісьменніца Галіна Тарасюк — падчас візіту не толькі знаёмілі сваіх калег са станам уласнай літаратуры, але і рупіліся пра напаўненне будучай анталогіі беларускай паэзіі, што ў наступным годзе мае выйсці ў Кіеве. Прадстаўнік Грузіі — пісьменнік і журналіст Бежан Намічэйшвілі — таксама заявіў пра намер Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў выдаць зборнік, дзе беларуская літаратура будзе гучаць па-руску, а творы рускамоўных аўтараў — па-беларуску.

«Перааддольваючы супраціўленне розных моў, мы імкнемся знайсці агульнае — тое сугучча, пра якое гаворыцца сёння. І нам гэта ўдаецца», — зазначыў беларускі перакладчык і навуковец Іван Чарота. Гэтую думку пацвердзілі сваімі выступамі паэты Мікола Мятліцкі ды Навум Гальпяровіч. Апошні зазначыў: «Наша задача — адчуваць багатую душу народа, каб дастойна яго творы перакладаць на іншыя мовы. Толькі тады гэтае шматмоўнае літаратурнае суквецце будзе цікавым, калі ў ім паяднаюцца яркія колеры кожнай зямлі!»

Пра стварэнне новай інтэрнэт-пляцоўкі «Сугучча сэрцаў» у межах партала Выдавецкага дома «Звязда» аб'явіў падчас сустрэчы дырэктар рэдакцыйна-выдавецкай установы Алесь Карлюкевіч. Ён заклікаў творцаў і надалей актыўна камунікаваць дзеля ўмацавання міжлітаратурных сувязяў сваіх краін. Госці дамовіліся пра сустрэчу ў 2014 годзе ў Заслаўі.

**Таццяна СІВЕЦ, фота аўтара**

# Новая экспазіцыя ў доме Купалы

Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашае наведаць новую экспазіцыю «Шляхі», размешчаную ў трох залах, і інтэрактыўную зону «Хлопчык і лётчык». Урачыстае адкрыццё адбылося 29 жніўня.



*Фота Наталлі Купрэвіч*

*Чырвоную стужку пераразаюць Жанна Дапкюнас і намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік.*

Першую экспазіцыю ў доме паэта мінчане змаглі ўбачыць 18 мая 1960 года. Тады на ўрачыстым адкрыцці прысутнічаў Пётр Машэраў, а чырвоную стужку перарэзаў віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук Кандрат Крапіва. Ганаровымі гасцямі свята былі сваякі першага народнага паэта Беларусі — сёстры, іх дзеці і ўнукі.

Мінула паўстагоддзя, змянілася пяць экспазіцый, і са сваякоў у дом Купалы змагла прыйсці толькі Жанна Казіміраўна Дапкюнас, унучатая пляменніца паэта, якая, да таго ж, усё сваё жыццё прысвяціла працы ў музеі, а на працягу 16 гадоў была яго дырэктарам.

— Стварэнне новай экспазіцыі — гэта як нараджэнне мастацкага твора, — гаворыць Жанна Казіміраўна. — Кожны раз фонды музея папаўняюцца новымі экспанатамі, прытым грунтоўна. Але нельга сказаць, што гэтая экспазіцыя зусім новая, хутчэй, абноўлены варыянт папярэдняй. Захаваная тэматыка, сэнсавы стрыжань, абнавіліся ж самі экспанаты і форма іх падачы. Галоўны музей Купалы заўжды вылучаўся сур'ёзным падыходам да навукова-даследчай работы, да збору экспанатаў, знаходзіўся ў няспынным пошуку. І ў некаторай ступені музей Янкі Купалы — твар культуры Беларусі.

Візітнай карткай нашай краіны назваў музей і Васіль Чэрнік, намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь. На ўрачыстае адкрыццё экспазіцыі прыехалі таксама госці з Татарстана: дырэктар Музея-кватэры Янкі Купалы ў Пячышчах Рыма Абызава і дырэктар літаратурнага музея народнага паэта Татарстана Габдулы Тукая Гузель Духватава. Р. Абызава распавяла, што іх музей таксама плануе абнавіць экспазіцыю, прычым мінскія калегі да яе стварэння будуць мець самае непасрэднае дачыненне.

Адзін з прынцыпаў, закладзеных у навуковую канцэпцыю «Шляхоў», — паказаць праз новыя экспанаты гісторыю музея. Цяпер можна пабачыць фотаздымкі Янкі Купалы, якія сталі класічнымі, увайшлі ў многія даведнікі, падручнікі. Кожная з новых залаў прысвечаная пэўнаму перыяду творчасці і жыцця паэта. Так, першая дае ўяўленне пра «нараджэнне Янкі Купалы як драматурга (1908 — 1910)», прычым экспанаты тычацца не толькі яго знакамітых п'ес, але і драматычных паэм. Асобная ўвага надаецца сцэнічнаму жыццю такіх твораў. Назва другой залы — «Мінскія адрасы Янкі Купалы» — гаворыць сама за сябе. Найбольшую цікавасць сярод прадстаўленых тут экспанатаў выклікаюць асабістыя рэчы паэта. Жыццю ў Смаленску, выхаду зборнікаў «Спадчына» і «Безназоўнае» ды іншым падзеям прысвечаная трэцяя абноўленая зала музея. Асобна варта сказаць пра ўдалае матэрыяльнае ўвасабленне верша «Хлопчык і лётчык». У так званай «інтэрактыўнай зоне» наведнікі могуць адчуць сябе тым самым хлопчыкам, што так прасіўся ў палёт.

Аднак на гэтым абнаўленне экспазіцыі, якое рыхтавалася цягам пяці гадоў, не завершана — на чарзе яшчэ тры залы.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

# Час павышанай зацікаўленасці

Нацыянальная бібліятэка Беларусі запрашае на мастацкую выстаўку «Слова», прысвечаную 1150-годдзю славянскага пісьменства.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

Выстаўка будзе працаваць да 13 кастрычніка. Працы беларускіх мастакоў — Генадзя Мацура, Юрыя Тарэева, Анатоля Кузняцова, Алеся Квяткоўскага, Андрэя Плясанава, Сяргея Пісарэнкі і іншых — можна пабачыць у галерэі «Лабірынты», што месціцца на трэцім паверсе бібліятэкі.

Асобна варта адзначыць яшчэ тры «элементы» часовай экспазіцыі. Па-першае, гэта дызайнерскія майкі славутага Уладзіміра Цэслера. Гульні са словам адназначна яму ўдаюцца, у чым вы самі можаце ўпэўніцца. Па-другое, цікавымі выглядаюць экслібрысы Марыі Капілавай, якія занялі значную частку экспазіцыі. Па-трэцяе, каліграфія кітайскага майстра Лі Цзо, які, да таго ж, выкладае кітайскую мову на факультэце міжнародных адносін, займаецца перакладамі і ўжо не раз выстаўляў свае працы ў сталічных галерэях.


Фота Кастуся Дробава

Зрэшты, пра каліграфію на ўрачыстым адкрыцці гаварылася многа. Нядзіўна! У якім яшчэ відзе мастацтва графічны бок слова настолькі значны? Надзвычай цікавым быў майстар-клас па каліграфіі ад Лі Цзо, а таксама мастака каліграфа Генадзя Мацура. Прысутнічаў і Павел Семчанка, знакаміты беларускі каліграф, заснавальнік і галоўны настаўнік суполкі «Літарт».

— Мы жывём у час павышанай зацікаўленнасці нашай культурай, і найперш — кніжнай, — зазначыў Аляксандр Суша, намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі па навуковай працы і выдавецкай дзейнасці. — Мы святкуем 1150-годдзе ад вынаходніцтва славянскай азбукі, адсвяткавалі юбілей хрышчэння Русі — менавіта праз хрысціянства наша культура ўзбагацілася, у тым ліку праз помнікі пісьменства. Мінск толькі што прымаў такі буйны форум, як з'езд славістаў... Беларусы ў пэўнай ступені могуць звацца нацыяй кнігі. Кожны дзеяч з айчыннай культуры, каго ні згадай, звязаны са словам. На выстаўцы вы можаце пабачыць, як слова паўплывала на стварэнне мастацкага вобраза. Адначасова з гэтай працуе яшчэ адна выстаўка, кніжная — «Напачатку было слова», якую можна будзе наведаць ажно да канца гэтага года.

Словы пра «нацыю кнігі» пацвердзіў паэт Міхась Башлакоў, які распавёў наведнікам выстаўкі пра ўнікальныя выданні, створаныя ім сумесна з мастаком Міхасём Бардзыкам. Кнігі «Ліставей», «Перья и крылья», «Накануне» і «Road» («Шлях») спалучылі паэзію і графіку і атрымалі не адну высокую ўзнагароду ў Еўропе. Згаданыя кнігі таксама можна пабачыць на выстаўцы.

## Свята пісьменства — ў Давыд-Гарадку



У Дзень беларускага пісьменства сваю «малую радзіму» — Давыд-Гарадок — наведаў пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Георгій Марчук. Адбылася прэзентацыя новых твораў знанага аўтара — зборніка казак «Добрае сэрца» і зборніка навел «Ластаўкі над Гарынню» ў перакладзе на рускую мову. Да ўвагі чытачоў была таксама кніга літаратуразнаўцы Людмілы Іконнікавай «Мастацкі свет твораў Георгія Марчука» — даследаванне, прысвечанае жыццю і творчай дзейнасці пісьменніка. Падчас сустрэчы сваімі ўспамінамі падзяліліся сваякі і аднакласнікі аўтара, прагучалі мілагучныя палескія песні і дасціпныя жарты. Георгій Марчук расказаў пра жыццё пісьменніцкай арганізацыі, пра сучасны стан беларускай літаратуры. Мэр горада і дырэктар мясцовага музея выказаліся за тое, каб звярнуцца ў Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь з просьбай аб правядзенні Дня беларускага пісьменства ў 2017 годзе ў Століне. Было падкрэслена, што палеская зямля багатая на літаратурныя таленты: у айчыннай літаратуры сёння плённа працуюць ураджэнцы Століншчыны. Напрыканцы сустрэчы Георгій Марчук падараваў роднай бібліятэцы больш як сто кніг разнастайнай тэматыкі.

**Марыя РУДОВІЧ**

## На ўспамін ад славістаў

У межах XV з'езда славістаў у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце працавала кніжная выстаўка, арганізаваная Цэнтральнай навуковай бібліятэкай імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Як распавяла дырэктар бібліятэкі Наталля Бярозкіна, дэлегацыі не прывозілі кнігі з сабой, але кожная краіна-ўдзельніца даслала абраныя навуковыя працы поштай — на адрас бібліятэкі. І хоць на афармленне дакументаў у супрацоўнікаў пайшоў цэлы дзень, затое пасля выстаўкі кнігі будуць захоўвацца ў бібліятэцы, і ўсе жадаючыя змогуць з імі азнаёміцца. Калі знойдуцца дублетныя матэрыялы, іх перададуць у Нацыянальную бібліятэку Беларусі.

На выстаўцы былі прадстаўлены каля тысячы кніг з Італіі, Бельгіі, Канады, Аўстрыі, Германіі, Швецыі, Францыі, Швейцарыі, Польшчы, Балгарыі, Чэхіі, Венгрыі і інш. — усяго болей як з 20 краін. Але самыя вялікія экспазіцыі ў Расіі, Украіны і Беларусі. Тэматыка выданняў— праблемы мовазнаўства, літаратуры на славянскіх мовах, культуры, мастацтва і г.д.

— Сапраўды, надзвычай цікавая выстаўка, — узрушаны прафесар Іван Саверчанка. — Былі прадстаўленыя лепшыя інтэлектуальныя здабыткі вучоных усяго свету, закрануты ўвесь комплекс гуманітарных праблем і пытанняў, якія стаяць перад сучаснай славістыкай. Да таго ж, выстаўляліся найноўшыя і найлепшыя працы. Уразілі мяне італьянская і сербская выстаўкі. Годна прадстаўленыя і нашы выдавецтвы. Але пакуль мы яшчэ знаёмімся. Ацаніць усё значэнне можна толькі з часам, калі глыбей вывучыш літаратуру. Да таго ж, і выстаўка, і сам з'езд — гэта новыя сустрэчы са старымі знаёмымі, сустрэчы радасныя, сентыментальныя. На жаль, многія мае старэйшыя калегі не змаглі прыехаць. Прафесар Ротэ, найбуйнейшы спецыяліст свету па славістыцы, літаральна напярэдадні з'езда даслаў ліст, што прысутнічаць не будзе. Але нягледзячы на тое, што яго няма, ён працуе — над нашым сумесным, пакуль што сакрэтным, праектам. Так, першыя два дні паказалі, што сустрэчы навукоўцаў — сур'ёзны імпульс для развіцця навукі, асабістага сталення, новых творчых пошукаў.

На правах краіны, якая прымае з'езд, Беларусь прадставіла найбольшую колькасць выданняў: на трох стэндах можна было пабачыць лепшыя кніжныя ўзоры, напрыклад, фотаальбомы ці факсіміле «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі» Ластоўскага, а таксама навуковую і мастацкую літаратуру.

— Разам з матэрыяламі кангрэса нам далі спісы сталічных кніжных крамаў, — распавяла прадстаўніца нямецкага боку Святлана Маргель. — Мы ўжо абмеркавалі гэта з калегамі і падзівіліся, як многа ў Мінску кнігарняў — у Германіі менш. Мы вырашылі абавязкова іх паглядзець. Прыемна, што кнігі, найбольшыя духоўныя каштоўнасці, так у вас шануюцца. І гэта стварае станоўчае ўражанне пра Беларусь.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

## Служыў тэатру

Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача напаткала раптоўнае і вялікае гора: памёр яго дырэктар Юры Уладзіміравіч КУЛІК.

Юры Кулік скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут па спецыяльнасці «артыст драматычнага тэатра і кіно». З 1976 па 1988 год служыў артыстам у Нацыянальным акадэмічным драматычным тэатры імя Якуба Коласа ў Віцебску. Потым яго накіравалі ў Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы для рэжысёрскай стажыроўкі.

Як рэжысёр-пастаноўшчык адбыўся ў Тэатры юнага гледача (1991 —1995). Працаваў у Саюзе тэатральных дзеячаў, займаў пасаду дырэктара ў Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі, з 2009 года аднавіў працу ў Тэатры юнага гледача — у якасці дырэктара.

Вядомы як рэжысёр і драматург, яго п'есы ставіліся ў розныя часы, прытым неадназова. Спектаклі паводле п'ес «Аднакласнікі» («Дзень пэрадактыля») і «Пані Завіруха» з поспехам ідуць і сёння ў Тэатры юнага гледача.

Калектыў газеты «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці дырэктара Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача Юрыя Уладзіміравіча КУЛІКА і выказвае шчырыя спачуванні яго родным і блізкім.

## Абрысы

Выстаўка «Вучні Якуба Коласа», прымеркаваная да Дня ведаў, адкрылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Народны паэт Беларусі меў непасрэднае дачыненне да адукацыйнай дзейнасці: сам працаваў настаўнікам, займаўся пытаннямі педагогікі, стаў аўтарам першай навуковай працы ў галіне навучання роднаму слову «Методыка роднае мовы». Экспазіцыя расказвае не толькі пра педагагічную дзейнасць пісьменніка, але і пра яго ўзаемаадносіны з вучнямі, якім Якуб Колас выкладаў у розныя перыяды жыцця. На адкрыцці выстаўкі выступілі ганаровыя госці: малодшы сын Песняра Міхась Міцкевіч, унучка паэта Марыя Міцкевіч, доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша.

Прымеркаваныя да Дня беларускага пісьменства «Скарынаўскія дні» завяршаюцца ў Полацку. Свята «Мы наследнікі Скарыны, ведаем, умеем, ствараем!», удзел у якім бралі лепшыя дзіцячыя творчыя калектывы горада і раёна, адкрывала праграму Дзён. Працавалі 9 тэматычных пляцовак: канцэртная, творчая, ваенна-гістарычная, турыстычная, кніжная і інш. У полацкай гімназіі №1 імя Францыска Скарыны прайшло мерапрыемства «Высокае імя Скарыны нясём», а на гісторыка-філалагічным факультэце Полацкага дзяржуніверсітэта працуе выстаўка «Друкарскай справы пачынальнік», прайшлі экскурсіі «Універсітэты Францыска Скарыны» і «Дзень ведаў у парку высокіх тэхналогій». У Музеі беларускага кнігадрукавання для навучэнцаў і студэнтаў арганізаваны музейныя ўрокі «Пачатае Скарынам», а ў бібліятэках — урокі ведаў «Свята Скарынаўскага слова», кніжныя выстаўкі.

З 12 па 15 верасня ў Гродне пройдзе Свята класічнай музыкі «TyzenHouse», назва якога праз своеасаблівую гульню слоў звязана з прозвішчам Антонія Тызенгаўза — вядомага гарадзенскага старасты, мецэната, які ў другой палове XVIII ст. заснаваў і пабудаваў у Гродне не толькі шэраг мануфактур, медыцынскую школу, батанічны сад, але і тэатр, тэатральную школу, музычную капэлу, якія былі шырока вядомы ва ўсёй Еўропе. Сваё майстэрства гродзенскім «меламанам» падорадць як сусветна знакамітыя «маэстра», так і маладыя таленавітыя выканаўцы.

У сталічным кінатэатры «Цэнтральным» працуе выстаўка фотаздымкаў «Беларусь без сірот», прысвечаная выхаванцам дзіцячага дома Віцебска. Наведвальнікам выпадзе шанец зазірнуць у вочы дзяцей, якія засталіся без бацькоўскай апекі. У кожнага з іх — жыццёвая драма і цэлая гісторыя змагання за асабістае шчасце. Жадаючыя могуць даведацца пра магчымасць атрымання апекі над сіротамі. Выстаўка вітае не толькі патэнцыяльных бацькоў, але і ўсіх, хто жадае стаць валанцёрам, аказаць спонсарскую дапамогу ці проста падтрымліваць зносіны з выхаванцамі дзіцячага дома. Арганізатары спадзяюцца, што кожнае дзіця атрымае ўвагу, неабходную для паўнавартаснага развіцця.

# На літаратурнай карце свету

Каб па-сапраўднаму ўсебакова і глыбока спасцігнуць феномен беларускай літаратуры, трэба разгледзець яе ўважліва здалёк і зблізку. Але спачатку зблізку — як з'яву, у аснове якой ляжыць наш нацыянальны менталітэт, і толькі затым здалёку — на фоне літаратурнай карты свету.

**Міхась ТЫЧЫНА**

Першае, што кідаецца ў вочы наведвальніку ў кабінеце Івана Штэйнера, доктара філалогіі, прафесара, члена-карэспандэнта Міжнароднай Акадэміі навук Еўразіі, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Францыска Скарыны, — гэта вялікая, на паўсцяны, карта літаратурнай Гомельшчыны. Яшчэ мацней уражвае пералік імёнаў літаратараў-выпускнікоў універсітэта, гомельская школа. Пра іх з захапленнем апавядае гаспадар кабінета і ахвотна дэманструе аб'ёмістыя аўтарскія зборнікі навукова-папулярных артыкулаў і нарысаў, дзе падаюцца асноўныя звесткі з жыццёвага і творчага шляху тых, хто стаў гонарам і славай гэтай галоўнай навучальнай установы класічнага тыпу ў Палескім рэгіёне, і наогул пісьменнікаў-ураджэнцаў Гомельшчыны: «Дняпроўскія матывы» (2009), «Прыпяцкая рапсодыя» (2010), «Сожскі карагод» (2010), «Alma mater universitatis» (2010).

Іван Штэйнер, які днямі адзначае 60-годдзе, нарадзіўся ў вёсцы Бежкаўне на Століншчыне. Як сам кажа, «Іван, таму што 11 верасня свята — Іван Галавасек, Иоанн Креститель, Иоан Предтеча».

Пасля школы і вучобы на філфаку БДУ, працы дырэктарам Хатомельскай васьмігодкі і метадыстам абласнога Інстытута ўдасканальвання настаўнікаў, І. Штэйнер на доўгія гады звязаў свой лёс з Гомельскім дзяржаўным універсітэтам. Абараніў кандыдацкую, потым доктарскую дысертацыі і ўжо 30 год працуе загадчыкам кафедры беларускай літаратуры. Аўтар 450 навуковых прац, у іх ліку




27 манаграфій, вучэбных дапаможнікаў, кніг, п'ес, 20 калектыўных зборнікаў рэгіянальнага фальклору, краязнаўчых кніг. Шматгадовы галоўны рэдактар міжуніверсітэцкага зборніка «Беларуская літаратура», створанага ў свой час яшчэ Міколам Грынчыкам — першым загадчыкам кафедры, навуковым настаўнікам І. Штэйнера. Кіраўнік навуковай школы «Рэгіянальны, агульнанацыянальны і агульначалавечы ўзроўні ў літаратуры: духоўная спадчына беларусаў у сусветным кантэксце». Галоўны каардынатар міжуніверсітэцкай фундаментальнай тэмы «Палессе-2005». Навуковы рэдактар шэрагу рэспубліканскіх і міжнародных навуковых канферэнцый. Удзельнік Міжнародных з'ездаў славістаў у Любляне (Славенія), Охрыдзе (Македонія), Мінску (Беларусь), навуковых




канферэнцый у Варшаве, Познані, Беластоку, Кракаве, Ольдэнбургу і інш.

Гомельская школа навукоўцаў-літаратуразнаўцаў, створаная прафесарам І. Штэйнерам, уключае такія імёны, як В. Ярац, С. Ханеня, В. Яцухна, С. Цыбакова, А. Мельнікава, Т. Фіцнер, А. Брадзіхіна, В. Лідзянкова, яго былыя аспіранты П. Кошман, А. Ванькові́ч, Ю. Сальнікава, Т. Целяховіч, М. Воінава-Страха, М. Аммон. Галоўны напрамак дзейнасці — даследаванне беларускай літаратуры ў славянскім і агульначалавечым кантэксце, класічная і сучасная літаратура ў эпоху глабалізацыі і яе перспектывы ў гэтым зменлівым сусвеце. У перспектыве — разгляд беларускай паэзіі і прозы на шырокім сусветным фоне з паказам эстэтычных каштоўнасцей нацыянальнай літаратуры.

Імя Івана Штэйнера як літаратуразнаўцы прыцягнула да сябе ўвагу ў навуковых і літаратурных колах дзякуючы яго цікавасці да жанру беларускіх балад, якія сталі прадметам і аб'ектам кандыдацкай і доктарскай дысертацый. Балада адносіцца тэарэтыкамі літаратуры да «простых форм», якія з'яўляюцца выключна апавядальнымі і вылучаюцца сваім эпічна-лірычным характарам, насычанымі драматычнымі элементамі і незвычайнымі легендарнымі або гістарычнымі сюжэтамі. Аналітычны роздум вывеў думку літаратуразнаўцы да гісторыі славянскай балады, асабліва месца ў якой займае польская балада першай паловы XIX ст., калі па сутнасці і ўзнікла новая беларуская літаратура, арыентаваная на сваіх еўрапейскіх суседзяў. Класічная балада ў творчасці Я. Купалы, Б. Лесьмяна, Л. Стафа, К. Пшэрвы-Тэтмаера на мяжы XIX — XX стст. перажыла выразны момант сваёй трансфармацыі, бо зрушылася вось трагічных супярэчнасцей у гісторыі чалавечай цывілізацыі. Адкрытая даследчыкам прастора знайшла свой натуральны працяг у навуковых працах яго вучняў, напрыклад, у кандыдацкай дысертацыі В. Лідзянковай, рэхам яна адгукнулася і ў асобных навуковых дакладах замежных літаратуразнаўцаў, якія ўдзельнічалі ў працы XV Міжнароднага з'езда славістаў у Мінску. І сам адкрывальнік новых шляхоў не спыняецца на дасягнутым, пра што сведчыць яго іскрамётны артыкул «Баладныя пошукі Радзімы: «Смаленскі цыкл» Я. Купалы і баладыстыка І. Траянава і М. Крлежы».

Іван Штэйнер мае свайго чытача. І гэты чытач, лёгка пазнаючы яго па некалькіх сказах, выслоўях, парадоксах, манеры выказвання, імклівым палёце думкі, тым не менш здзіўлены небывалай актыўнасцю публікатарскай дзейнасці: кніга за кнігай, зборнікі артыкулаў і эсэ, творчыя партрэты... Як даследчык літаратуры І. Штэйнер выдатна ведае пра ўзлёт навукова-тэарэтычнай літаратуразнаўчай думкі, як выкладчык літаратуры не можа не заўважаць адпаведна разрыў сучаснага ўзроўню літаратурнай навукі ад масавага чытача. Менавіта таму ў яго ўзнік план выдання серыі папулярных нарысаў, літаратурных эсэ, лятучых брашур, якія сталі даступнымі многім з тых, хто яшчэ памятае легендарныя часы, калі ўладарамі думак і сэрцаў былі пісьменнікі. Гэта серыя міжволі выйшла за межы стыхійнай публікатарскай дзейнасці даследчыка і ў выніку набыла адпаведныя рысы ўсеахопнасці і энцыклапедызму, дзе ёсць месца многім імёнам і эпохам. Яго навукова-даследчая і літаратурна-крытычная праца сістэмная і прадумана паслядоўная. Справа не ва ўдакладненні назвы кнігі «Déjà vu, або Успамін пра будучыню» (звыклае «ўжо было»), якая і ў французскім напісанні ўражвае навізной, а калі дадаецца яшчэ і «bis» («Déjà vu bis»), то гэта азначае, што кніга зацікавіла і чытач патрабуе працягу.

Усё большае кола літаратурных з'яў і пісьменніцкіх імёнаў ахоплівае позірк даследчыка, а ў выніку ўзнікае вобраз шырокага «поля літаратуры», якое ў сваю чаргу магутна ўплывае на стан, ход і напрамак літаратурнага працэсу, на змест і характар творчых задумаў асобных аўтараў. Пакуль існуе і пашыраецца гэта «поле», можна не хвалявацца за лёс і будучыню нашай літаратуры. Якой мусіць быць Беларусь пасля У. Караткевіча, М. Стральцова, А. Адамовіча, П. Панчанкі, М. Танка, В. Быкава, І. Шамякіна, Я. Брыля, В. Адамчыка, І. Чыгрынава, А. Сыса, Я. Сіпакова? Варыянты адказаў чытач знойдзе на старонках кніг, прысвечаных многім з названых пісьменнікаў. А пытанні, якія, як вядома, з'яўляюцца пасля таго, як адказы ўжо былі ў творах класікаў (так, спачатку адказы, а затым пытанні), трывожна гучаць у кнігах І. Штэйнера пра У. Караткевіча, Р. Барадуліна, А. Разанава, А. Сыса, В. Шніпа, Р. Баравікову, Ю. Станкевіча, А. Федарэнку,




А. Наварыча, В. Дубінку, Ф. Сіўко і інш. Знаёмства з творамі І. Штэйнера выклікае адчуванне жыццёвай патрэбы мастацкай літаратуры, немагчымасці нацыянальнага існавання без яе. Якія дакладныя і горкія словы: «Мы не прачыталі як след Купалу, таму разгадка космасу Сыса яшчэ наперадзе»! І многіх-многіх! — дадаў бы я ад сябе.

І. Штэйнер віртуозна авалодаў прыёмамі, заснаванымі на інтуітыўна-асацыятыўнай сувязі з'яў сучаснай беларускай літаратуры са з'явамі сусветнай літаратуры. Уражвае свабода і нязмушанасць гэтага аўтара многіх кніг у адносінах да імёнаў, да паняцця літаратурнай іерархіі. Па сутнасці, яго эсэістычнае літаратуразнаўства ўяўляе сабой вольны палёт думкі, якая на нашых вачах то лунае да нябёсаў, то вяртаецца да зямных клопатаў і спраў. Яго цікавасць да нацыянальнага літаратурнага матэрыялу, якая можа здацца часам перабольшанай, калі мець на ўвазе грандыёзны фон сусветнай літаратуры, вельмі ўдала падмацоўваецца нечаканымі і арыгінальнымі, вынаходлівымі і нешматслоўнымі спасылкамі на сусветныя аўтарытэты самых розных эпох і культур. Характар аўтарскіх адносін да літаратуры і закранутых ёю лёсавызначальных праблем навідавоку — асоба і інтанацыя адэкватныя адно аднаму. А за ўсім не толькі праца, праніклівае


*Фота Кастуся Дробава*

ўчытванне ў тэксты, але і глыбокі роздум чалавека, які шмат што зразумеў у жыцці і сапраўды набыў двайны зрок (такая метафара прыводзіцца ў адным з яго тэкстаў), які памятае і пра аўтара, і пра чытача. Эсэістычны жанр і стыль у выкананні І. Штэйнера вельмі натуральныя і адэкватныя, калі мець на ўвазе складаныя рэчы, з якімі ён мае справу і да якіх імкнецца далучыць сваіх чытачоў. Гаворка ў яго тэкстах закранае асноватворныя ў беларускім жыцці-быцці паняцці: плач, фобіі, смех праз слёзы, малітва, споведзь, слова ў чалавека і без чалавека, адносіны да смерці і інш.

Катастрафічная свядомасць як праява сучаснай культурнай сітуацыі, трагізм светаўспрыняцця нацыі, якая раней, чым многія іншыя, сутыкнулася твар да твару з праблемамі духоўнага і фізічнага выжывання, дачаснае бачанне перакуленага быцця ў перакуленым сусвеце, абвостранае блізкасцю чарнобыльскай зоны, памежжа культур і літаратур (хаця пра гэта анідзе ў тэкстах ані намёку: разумны здагадаецца, чулы зразумее), іншабыццця. Якім можа быць свет пасля ўсяго? Якім павінен стаць чалавек, каб не страціць чалавечнасць? Якой мае быць мастацкая літаратура, і не толькі беларуская? Гэты максімалізм, які, можа, іншым уяўляецца празмерным, неадэкватным, фантастычным, насамрэч стымулюе аўтара да самараскрыцця, да адвагі і рызыкі, а густ і адчуванне меры спыняе яго на краі, а прыроджаны гумар і досціп, які нагадвае пра сябе то тут то там у яго эсэістыцы, ратуе ад празмернай сур'ёзнасці і пафаснасці.

Дастаткова пазнаёміцца з такімі кнігамі Івана Штэйнера, як «Споведзь перад Богам і людзьмі: беларуская паэзія на стыку тысячагоддзяў», «De profundis clamavi: Смех і роспач у нацыянальнай мастацкай традыцыі», «Кому без человека нужно слово». Да іх нядаўна дадаліся кнігі «Bis repetita placent» і навуковы даклад на XV Міжнародным з'ездзе славістаў «Нацыянальная паэзія ў эпоху глабалізацыі: праблемы і перспектывы», прачытаны нядаўна, за тры тыдні да юбілею яго аўтара. Чытач адшукае ў ім адказы на пытанні, пастаўленыя ў анатацыі да выдання: «Што будзе з беларускай літаратурай у эпоху глабалізацыі? Чаму беларус часцей плача, чым смяецца? Ці патрэбна нам «звышлітаратура» і як яе стварыць? У чым сакрэт сапраўднага таленту? Што прымушае пісьменніка тварыць? Перад кім нясе ён адказнасць за свой дар?»

Каму недастаткова адказаў самога І. Штэйнера, раю пазнаёміцца з яго п'есай «"Мудрости зачало и конецъ..." або Спакушэнне Скарыны», вадэвілем «Кот на лаўрах» і наведаць пастаноўку драматургічных твораў у Гомельскім абласным драматычным тэатры.

Варта згадзіцца з яго высноваў: «Літаратуру рана хаваць. Чуткі пра яе блізкую смерць моцна перабольшаныя, яна проста эвалюцыянуе».

# Лісты з мінулага

Падчас нашага знаёмства зімой 1991 года Нэля Тулупава працавала загадчыцай аддзела сатыры і гумару часопіса «Вожык». Яна першая адчула мае задаткі празаіка і гумарыста. Тактоўна і настойліва вучыла мяне спасцігаць глыбіню слова, шукаць яму месца ў радку, засцерагала ад «хваробы» пустаслоўя, паказвала на прыкладах, як пісаць сцісла, але маштабна. Гэта была па сутнасці тэорыя літаратуры, выкладзеная ў даступнай практычнай форме. Што ж яднала нас з Нэляй Іванаўнай, рознага веку жанчын? Вядома ж, пакланенне Богу і яго вялікасці Слову. Сёлета Нэлі Тулупавай споўнілася б 75 год. Так хочацца назваць гэтую салідную лічбу не ва ўмоўным ладзе, але, на жаль, ні пражытыя гады, ні людзі, якія пераступілі мяжу вечнасці, да нас ніколі не вернуцца. Адзінае, што магчыма, — пагартаць старонкі кнігі памяці і прачытаць лісты з мінулага, напісаныя некалі яе рукой.



**12 снежня 1992 года**

*Галя, трэба адкінуць рускае і пісаць толькі на беларускай мове. Галоўнае — пісаць! Вось дзе тваё. Расці творча! Калі нешта «пячэ», пакідай да раніцы трэцяга дня, і тады не будзе памылкі.*

**Люты 1994 года**

*Галя-Галінка, глыбоцкая дзяўчынка… Ты так падобна на маю Алесю, такая худзенькая, дробненькая ў твары. Я буду лічыць цябе другой дачкой… Раптам што са мной здарыцца — ты застаешся ў мяне за старэйшую. Алеся ад Прыроды так задумана: яна як павуцінка ў гэтым свеце. Не прыземленая. Як нейкі сімвал ці знак космасу аб нашай беспритульнасці тут…*

*Наконт творчасці: твой талент саспявае ўнутры. Але пакуль будзе шлак, пясок, золата — глыбей. Маякоўскі праўду казаў, што трэба добра паперакапаць, каб дабрацца да жамчужын. Талент як вулкан: спачатку шлак выкідае. Трымайся сваёй мовы, яна ў цябе — выдатная! Мне здаецца, што па форме ты — пісьменніца. Пачытай Тэфі. Яна была гумарысткай, пісьменніцай малых форм. Паспрабуй дзіцячыя смешныя вершыкі, казачкі. Але пішы, не кідай і чытай класіку. Звяртай увагу на рыфму, вобразы, выбар тэмы і яе апрацоўку. Перш, чым напісаць, складай слоўнік свой і карыстайся ім.*

**Снежань 1998 года**

*Добры дзень, Галя і ўся твая «Галандыя»! Пішу вам пісьмейка... Будзьма хрысціянамі! Будзьма трываць усё, што заслужылі сваім грэшным жыццём… Мы плоцію ў немачы, але Дух узрастае. Я амаль год адбыла ў Бараўлянах. Як будзе далей — адзін Бог ведае. Няхай Вам, мае дарагія сутулякі, свеціць Віфліемская зорачка!*

**1999 год**

*Галечка! Сумна пішаш пра жыццё. Што ў вас, тое і ў нас: хваробы, засмучэнні, безграшоўе. Калі падысці духоўна, то ўсё цудоўна. Госпад бачыць нас і чуе; ратуе нас для Вечнага жыцця. Самі ж удасканальваемся слаба, марудна. А трэба ж вяртацца да богападабенства, трэба ўзводзіць у сваёй Душы Храм… праз пакаянне, спавяданне, прыняцце Крыві і Цела Хрыстова. Трэба чысціць свае смуродныя душы…*

*Усё лета была ў Бараўлянах. Апраменілі да апошняга. Цяпер спадзяюся на літасць Госпада Ісуса Хрыста… Сяджу на абязбольваючых. Не прыму — боль дае дыхту. Праз не магу ездзіла ў Карму Гомельскай вобласці да мошчаў Святога праведнага Іаана Кармянскага. Нага ацякае, як драўляная, не дае рухацца… Сабаравалася… А ты пішы раман. Знайдзі сюжэт і пішы паціху. Духоўны раман. Цалую. Цалуем.*

*Мы.*

*Спіце мірна, але не праспіце Царства Божага. З Богам!*

***Мінчане.***

**9 лютага 1997 года**

*Галя, шкада, што ты так далёка. Здаецца, ты знойдзеная галінка ад майго разбуранага духоўнага Дрэва. Няхай сабе радавод у цябе іншы, але хто ведае, якія духоўныя повязі існуюць у Кнізе Жыцця паміж нашымі душамі… Вельмі позна мне адкрылася шчылінка ў Вечнае жыццё…*

*Часта шкадую і плачу па загубленым часе, па тым, што вырасла ў атэістаў, што міма Храма прайшло жыццё. Удзячна Богу і ўсім Нябесным Сілам, што не кінулі мяне на пагібель. І вучаць мяне, быццам першакласніцу, лікбезаўку, мабыць, мала часу засталося…*

*Пра займанне літаратурай. Не кідай. Але лепш рыхтуй зборнік апавяданняў з аповесцямі. Сюжэтаў хапае. Можаш узяць гістарычны, можаш — хрысціянскі. Ёсць у нас святы Гаўрыіл Беластоцкі. Яго ў пяць год распялі на крыжы лазовым габрэі мясцовыя за хрысціянства. Тры дні сабакі нікога не падпускалі да цела… Але трэба перш вучыць хрысціянскую літаратуру... Іншага шляху ў цябе няма, акрамя пісьменніцтва. Пішы пра тое, што робіць чалавека духоўным, што далучае Яго да Вечнасці і да Бога. Як будзе са мной — невядома. На ўсё Воля Божая Не кідай Алесю, лічы за сястру. Ты болей трывалая ў жыцці, чымся яна. Веру ў цябе…*

**Снежань 2000 года**

*Святла Вам! І каб для Бога мы былі жывымі свечачкамі духоўнасці. Радасці Вам у Госпадзе Ісусе Хрысце… Не пакідайце Храм! Веру ў вас!*

***Неаніла і дзеці.***

Ёй заставалася ўсяго паўгода жыцця… Нэля Іванаўна была духоўна моцным чалавекам: ніколі не казала пра сваю хваробу. Пра страшны дыягназ я даведалася ад яе дачкі Алесі. Пасля таго як яна прыехала з Бараўлян, мы праведвалі яе ўсёй сям'ёй. Я ўбачыла знаёмы і ў той жа час чужы твар, шэры, нібы з земляным налётам. Яе такія светлыя прамяністыя вочы цяпер былі бясколерна-халоднымі, глядзелі некуды міма нас, такое адчуванне, што ці ўглыб зямлі, ці ў тоўшчу часу. Я хацела яе пацалаваць, яна адхіснулася ад мяне — баялася, можа, каб не перадалася мне яе хвароба. Яна піла нейкія дарагія вітаміны для падтрымкі імунітэту, прывезеныя ёй з-за мяжы. Не шкадуючы, яна насыпала іх мне цэлую жменю… Гэта тое самае, каб чалавек, які тапіўся і трымаўся за выратавальны круг, прапанаваў бы гэты круг чалавеку, які проста купаўся побач….

Пра яе духоўную моц гаворыць і факт падрыхтоўкі да вечнага адыходу. Яна не збіралася паміраць, яна збіралася пакінуць нас і пайсці ў… іншае жыццё. І рыхтавалася ў гэтую дарогу з усёй адказнасцю. Незадоўга да смерці прыняла пострыг і стала манашкай Неанілай. Пакуль жыла, малілася за здароўе дзясяткаў людзей, якія, можа, нават і не падазравалі пра гэта.

На аркушы паперы яна пералічыла прозвішчы ўсіх людзей, каго хацела каб запрасілі на яе пахаванне. Алеся пазванілa мне і сказала: «Галя, мама хацела, каб вы праводзілі яе ў апошні шлях»...

Мой сусвет напалову абяднеў: я страціла духоўна блізкага чалавека, лічы, духоўную маму, якая да тонкасцей адчувала маю душу, маю псіхалогію, якая ценіла тую працу, якой я займалася, бачыла ў ёй і маё права выбару, і маё самавыяўлення, і Божае прадвызначэнне.

Яна жыла самаахвярна і, думаю, была шчаслівая, што ў гэтым знайшла сэнс жыцця. Яе пачуцці былі не паказныя, дабрыня — не па раскладзе. Яе дабрыня, як кроў, — неад'емная частка яе душы, яе «Я». Простая і мудрая. Адкрытая. Спавядалася ў сваіх вершах перад чытачом. Паэзія была для яе ачышчэннем ад зямнога грэшнага налёту, невычарпальнай крыніцай духоўнасці.

Хваробы, бытавыя праблемы зазямлялі яе, а вершы давалі магчымасць узлятаць над паўсядзённасцю, пераносіцца ў маладосць, у каханне, у тыя дні, дзе было яе асабістае дзявочае, мацярынскае, жаночае шчасце…

Я памятаю і люблю маю дарагую настаўніцу, духоўную матулю Нэлю Іванаўну. Мая памяць — у яе здымках, лістах, кнігах, выступленнях на тэлебачанні і радыё; у яе дзецях і ўнуках, у святле тых свечак, якія я стаўлю за супакой яе творчай, натхнёнай і вечна жывой у Госпадзе душы…

**Галіна СУТУЛА**



## Sorry і excuse me па-вожыкаўску

Калі вы яшчэ не ведаеце, якім спосабам каты ловяць рыбу, чаму дзяўчаты выходзяць замуж, якія дрэвы растуць у Аўстраліі, чым сучасныя дзеці качаюць мышцы, што прадаюць у канфіскаце, чым адрозніваюцца словы sorry і excuse me, то вам тэрмінова патрэбны восьмы нумар часопіса «Вожык»! Вядомыя мастакі-карыкатурысты Алег Карповіч, Алег Папоў, Андрэй Слуцкі, Алег Гуцол, Вікенцій Пузанкевіч, Пятро Козіч адказалі на гэтыя пытанні ў сваіх малюнках. А яшчэ — у якасці бонусу — мастак Аляксандр Пятроў правёў міні-курс пазітыўнай псіхалогіі, Аляксандр Каршакевіч у рубрыцы «Асцярожна: прахіндзеі!» засцярог ад таго, каб вас не «заБАДалі», Алег Папоў «размаляваў» справы амурныя, а Павел Гарадцоў запрасіў на «Вернісаж»...

«Сатырычным пяром» прайшоўся па брыдкаслоўі і маце Кастусь Карнялюк («Непатаемнае брыдкаслоўе»). Наталля Кульгавая расказала пра злодзея-фінансіста, які ўзяўся праводзіць спецыяльныя «конкурсы» па нявыплаце падаткаў у бюджэт (міні-фельетон «Падатковае "спаборніцтва"»), правяла рэйтынг нервовых «выбухаў» (рубрыка «Навіны з МУС: матай на вус...»), а таксама пабывала ў Казачнай дзяржаве —падслухала казкі катоў Баюноў (іранеска «Вечар рэкламных казак»). У рубрыцы «"Вожыку" пішуць...» чытачы звярнулі ўвагу на пэўныя хібы нашай рэчаіснасці.

«Вожык» павіншаваў свайго даўняга і надзейнага сябра вядомага пісьменніка Уладзіміра Мацвеенку з юбілеем — 85-годдзем — і надрукаваў падборку яго вершаў. І як не пагадзіцца, у прыватнасці, з тым, што «...Шмат людзей навокал розных: / Моцных, мудрых і сур'ёзных, / А на добрых — дэфіцыт» (верш «Дэфіцыт»).

Сёлета ў жніўні споўнілася 95 гадоў, як з'явіўся на свет прыроджаны гумарыст, пісьменнік, які прысвяціў два дзясяткі гадоў свайго жыцця працы ў часопісе — Міхась Пянкрат (1918 — 2001). У рубрыцы «"Вожык" у асобах» прыгаданы некаторыя яго гумарыстычна-сатырычныя творы, што не згубілі сваёй актуальнасці і ў наш час (напрыклад, «Бюракратычная карусель», якую апісаў М. Пянкрат яшчэ ў 70-я гады мінулага стагоддзя, «круціцца» дасюль). Упершыню ў «Вожыку» прадстаўлены ў гэтым нумары «гумарыстычны» дэбютант — дзіцячы пісьменнік Андрэй Смятанін са сваімі «гарэзліва-вясёлымі вершамі» (з рускай мовы пераклаў паэт Павел Саковіч).

Знайшлося месца на старонках часопіса для традыцыйных рубрык «Вясёлая пошта», «"Вожык" на сцэне», «Калючык», «Пад вуглом 40°», «Імпарт»... Барыс Кавалерчык, Міхаіл Шульга і Васіль Дзямбіцкі выказалі «Думкі ўголас»: «Толькі пасля вяселля даведваешся, што дзявочыя тайны — дробязі ў параўнанні з сакрэтамі жонкі» (Б. Кавалерчык); «Бывае, што разумныя думкі ўпарта не лезуць у галаву, хаця яна і пустая» (М. Шульга); «Якой мовай ні валодай, а з жанчынай дамовіцца ўсё роўна цяжка» (В. Дзямбіцкі). Уладзімір Ермалаеў, Сяргей Давідовіч, Базыль Хізавец, Віктар Рэчыц зарыфмавалі радкі пра хатнюю разборку ў жаб, дзеда-гідрамета, бацькоўскую навуку, сала і халестэрын; Павел Саковіч, Янусь Малец і Міхась Сазончык трапна «стрэлілі» па сваіх калегах эпіграмамі; Ірына Дэй запісала маналог аднаго мужа «Як мы Люсьцы сукенку куплялі», Алесь Козел распавёў пра «настаяшчых мужыкоў» (з натуры), а Васіль Ферáнц у гумарэсцы «Інструктаж» — пра настаўленні, якія даваў бацька сыну-першакласніку.

На «дэсерт» Лявон Целеш прапануе «Галаваломку» з прыказкамі. І калі вы ведаеце, хто спіць і курэй бачыць ці што смачна жабе, ды зубоў Бог не даў, варта неадкладна шукаць восьмы нумар часопіса ды адгадваць «зашыфраваныя» словы. Ну і, вядома, падпісвацца на «Вожык», каб нічога не прапусціць, бо наступны нумар будзе не менш цікавым і вясёлым!

**Юрый ВЯРБІЦКІ**



Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

## Евангелле душы

* * *

*На стыку стагоддзяў, на ветры вятроў,*
*У сонных палях і на ціхіх сцяжынах*
*Я чую: пад сэрцам бунтуецца кроў*
*І гоніць агонь утрапёны па жылах.*

*Звініць над сусветам пранізлівы зык.*
*І трубіць труба, і паходні палаюць,*
*І вечныя песні жанчыны спяваюць.*

*І моўчкі з іконы ўглядаецца Лік…*

* * *

*Евангелле паветра, евангелле душы,*
*Высокі дух стагоддзяў*
*над стромай утравелай…*
*Я б назаўжды стаміўся —*
*спяваць, змагацца, жыць,*
*Каб не было імгненняў*
*такіх на свеце белым.*
*Каб не было світанняў*
*праменных над ракой,*
*Бясед сяброў адданых*
*праз ноч над чаркай горкай,*
*Каб не ўзыходзіў светла*
*высока над зямлёй*
*Мой позірк спавядальны туды,*
*дзе свецяць зоркі.*

* * *

*Зялянелі таполі, каштаны цвілі,*
*І над соннымі ліхтарамі*
*Матылі падняліся кругамі*
*Да нябёсаў ад самай зямлі.*

*Быццам гэты высновы санет,*
*Напісаны прыродай самою,*
*Неслі ў космас нязнаных планет,*
*Адчуваючы радасць са мною.*

## Пяскі

Ва ўрочышчы Пяскі пад Полацкам на беразе Палаты ў гады Вялікай Айчыннай вайны фашысты расстралялі каля 150 тысяч ваеннапалонных і мірных жыхароў.

*Пяскі. Журботна-жоўтыя пяскі*
*Ля Палаты, ля ўзгоркаў утравелых.*
*Страляе ноч успышкай чорна-белай*
*І ранак паглядае з-пад рукі.*

*Я ўбачу раптам белую руку,*
*Што вынырне з-пад прысаку ў адчаі…*
*І Палаце зноў не заснуць начамі,*
*Калі ўспаміны хвалі апякуць.*

* * *

*Запалі каля ложка начнік,*
*Захіліся фіранкай ад свету.*
*Недасяжная, быццам планета,*
*У касмічнай начной цішыні.*

*Горад сціхне. І зноў спакваля,*
*Адчуваючы сэрцам пяшчоту,*
*Я спазнаю тваю адзіноту,*
*Нібы ўласны і пройдзены шлях.*

*А, здавалася, гэта прайшло,*
*Адышло, адплыло, адбалела…*
*Ды гарыць за фіранкай святло*
*І дрыжыць, быццам свечка, нясмела.*

* * *

*На беразе, перад абрывам,*
*Дзе плынь ледзь вырушыць карчы,*
*Стаіліся вуды і рыба.*
*Маўчым.*

*Ад вогнішча дым гаркаваты,*
*Бялее ў тумане вясло...*
*Я чую сябе вінаватым*
*За ўсё, што бясследна прайшло.*

*І гэтай віны адчуванне*
*Пад сэрцам збалелым жыве,*
*А вечнасць нясе дараванне.*
*І рэчка плыве і плыве...*

* * *

*Мне птушка раніцай спявала,*
*І раскрываўся за акном*
*Шалёны жывапіс Шагала*
*Жывым вірлівым палатном.*
*Там людзі лёталі і козы*
*Паміж аблокаў і бяроз.*
*Бо на світанні мала прозы,*
*А многа роздуму і кроз.*

*І хай залевы і мяцелі*
*Парушаць некалі спакой.*
*А ўсё ж каханыя ляцелі,*
*Нібыта птушкі, над зямлёй.*



Расціслаў БЕНЗЯРУК

## Верасень

*Слаўна пад бярозамі*
*З залатымі косамі;*
*Клёны зграбныя.*
*Цёплаю часінаю*
*Едзе з павуцінамі*
*Лета бабіна.*

*Церкві пах антонавак,*
*Рунь зусім зялёная,*
*Шаўкавістая…*
*Зноў лясы гамонкія,*
*А рабіны тонкія,*
*Бы з маністамі.*

*Песні жураўліныя*
*Па-над жуцавінамі,*
*Па-над верасам.*
*Школы абуджаюцца:*
*Дзверы адчыняюцца…*
*Месяц верасень.*

## Птушыны рытуал

**Ул. Барысюку**

*Вяртаюцца дзяцінства*
*адгалоскі,*
*Калі зноў бачу*
*рытуал птушыны:*
*У гурт буслы*
*збіраюцца за вёскай,*
*Яшчэ раз*
*аглядаючы мясціны,*
*Дзе лета правялі.*
*Яны ў трывозе,*
*Рашаюць нешта,*
*бо ніхто не знае,*
*Якія цяжкасці ім стрэнуцца ў дарозе,*
*Жыццё*
*якое ў тым заморскім раі…*
*Падыме ўраз*
*бусліных крылляў пругкасць,*
*Каб не забыць пра мілае Палессе,*
*Апошні рытуал —*
*кругі над лугам*
*Малююць у бяздонным паднябессі —*
*І ў шлях-дарогу.*
*Іх адлёт — падзея…*
*Чаму, скажыце,*
*пры такой нагодзе*
*Я ўспамінаю зноў*
*сяброў надзейных,*
*А паміж імі і цябе,*
*Валодзя?..*

## Жуpавы

*І нікнуць, і мокнуць палі, паплавы*
*Пад небам свінцова-халодным.*
*На поўдзень уранку ляцяць жуpавы,*
*Іх крык развітальна-жалобны.*

*— Скажыце,*
*што гоніць з абжытых мясцін,*
*А можа, вас так пакаралі?*
*Ці знойдзеце там прыгажосць арабін,*
*Якія усклалі каралі?*

*— Баімся мы слоты, баімся мы зім*
*І мусім ляцець за паўсвету…*
*Бывай, родны край! Мы ляцім ад рабін*
*Туды, дзе згубілася лета.*

*І як бы ў дарозе ні цяжка было,*
*Вясною ізноў сустракайце:*
*На крылах сваіх прынясём мы цяпло.*
*Чакайце!*
*Чакайце.*
*Чакайце…*

## Трыялет

*Як ранні снег на мокрую зямлю,*
*Так першае каханне к нам прыходзіць.*
*І нездарма гавораць у народзе:*
*«Як ранні снег на мокрую зямлю…»*

*Яшчэ не сказана шчымлівага «люблю»,*
*Але інакш кроў на жылах бродзіць…*
*Як ранні снег на мокрую зямлю,*
*Так першае каханне к нам прыходзіць.*

Фота Ані Седро



Даната ВАРАБЕЙ

* * *

*Я ніхто для цябе, і ты*
*Не шукай апраўдання слоўкі.*
*Толькі рэха далёкай зімы*
*Адгукнулася ў сэрцы зноўку.*

*Той зімы, што прыходзіць у сны*
*Развітальным, апошнім снегам.*
*І няма тут яе віны,*
*Што нам зімна бывае летам.*

*Я ніхто для цябе, павер.*
*Разышліся шляхі-дарогі.*
*Не шкадуй аб гэтым цяпер.*
*Я цябе адпускаю. З Богам!*

*Ты ніколі не будзеш знаць,*
*Ты ніколі не будзеш ведаць,*
*Як магла я цябе чакаць,*
*Як хацела табе я верыць…*

*Я ніхто для цябе… Чаму ж*
*Для цябе ўсё складаю вершы?*
*Ты ніхто для мяне, — кажу,*
*Толькі ў думках: «Адзіны… Першы…»*

* * *

*Вячэрняга неба пажар*
*Датлее на сэрцы болем.*
*Навісне адчаю цяжар:*
*Цябе я не ўбачу болей.*

*Народзяцца новыя дні,*
*І новыя прыйдуць вёсны,*
*Ды ведаць не будуць яны,*
*Як без цябе невыносна.*

*Вянчальны адзенуць убор*
*І вішні, і яблыні ў садзе,*
*Прачнецца за хатамі бор*
*З птушынымі песнямі ў ладзе.*

*І будзе раса на траве*
*Такой жа святой і гаючай,*
*Туман над ракой паплыве.*
*Чаму ж так пякуча-балюча?*

*А гэты адчай і цяжар —*
*Яго лепш не зведаць ніколі…*
*Вячэрняга неба пажар*
*Датлее на сэрцы болем.*

* * *

*Абдымае за плечы,*
*У шчокі цалуе*
*Вецер.*
*Ты хацела аднойчы*
*Быць самай шчаслівай*
*У свеце.*
*І збываліся мары,*
*Былі маякамі*
*Дзеці.*
*Толькі сонца з-за хмары*
*Жыццёвай не ярка*
*Свеціць.*
*Толькі шчасце, як нітка,*
*Знянацку парою*
*Рвецца.*
*Лёс тады забывае*
*Цябе захінаць*
*І песціць.*
*Ды не хочацца думаць,*
*Што так усё дрэнна*
*Ў свеце.*
*Толькі зноў абдымае,*
*У шчокі цалуе*
*Вецер.*



Аўтар працуе бібліятэкарам у дзіцячай бібліятэцы імя А. С. Пушкіна горада Наваполацка, з'яўляецца заснавальніцай і кіраўніцай народнага літаратурна-музычнага аб'яднання-салона «Крылы», піша прозу і публіцыстыку. У газеце «Літаратура і мастацтва» друкуецца ўпершыню.

Галіна СТАШКЕВІЧ

# Мініяцюры

## Пацалунак

**Адважным і мужным абаронцам Радзімы**

Надзея паспяхова заканчвала школу і збіралася стаць дзіцячым доктарам. Прайшло тры гады, як ад запалення лёгкіх памёр яе малодшы дзевяцігадовы брат. Уражаная бядой, Надзя пераканалася, што хоча лячыць дзяцей, каб ратаваць іх ад заўчаснай смерці.

Дзяўчына была па-юнацы зграбная, з выразнымі чорнымі, як вугольчыкі, вачыма; з густымі і пышнымі смалянымі валасамі. На галаве яна рабіла прабор і збірала валасы ў два «хвасты», высока прыўзняўшы іх. Пры яе хуткай і лёгкай хадзьбе здавалася, што на дзявочых плячы сеў нахабны крумкач і памахвае крыламі. Надзя часта лавіла на сабе позіркі юнакоў і сталых мужчын, але яе маладое сэрца не імкнулася трапіць у аблогу пачуццяў — яно чакала свайго часу.

Надзя сур'ёзна займалася вучобай, шмат гадзін праводзіла за падручнікамі. У вольныя хвіліны дапамагала матулі па гаспадарцы. І вось надышоў доўгачаканы дзень, калі шаснаццацігадовая Надзейка разам са сваімі равеснікамі атрымала атэстат сталасці. А ў наступны дзень аб'явілі, што пачалася вайна... Вайна, якая парушыла ўсе планы і мары ўчарашніх школьнікаў.

Прыбавіўшы сабе два гады, Надзея закончыла паскораныя медыцынскія курсы і апынулася на фронце. І вось тут лёс падарыў ёй сустрэчу. Дзяўчына нібы патанула ў бездані сініх-сініх вачэй. Стома разлілася па яе маладым целе. І яна зразумела, што ўпершыню закахалася. Закахалася з першага позірку.

— Як завуць цябе, прыгажуня? — запытаў малады баец, ласкава дакрануўшыся да яе рукі. Дотык ягонай далоні нібы апёк дзяўчыну.

— Надзя, — амаль прашаптала яна сарамліва.

— Надзя-Надзейка! — у захапленні нараспеў вымавіў русавалосы хлопец і больш стрымана дадаў: — Будзем знаёмыя, я — Аляксей.

Толькі на два гады ён быў старэйшы за прыгожую смуглянку. З першых дзён вайны Аляксей апынуўся на фронце і ўжо меў цяжкі досвед ваенных дзеянняў і шматлікіх страт баявых сяброў. Убачыўшы ў самым пекле вайны юную і прыгожую дзяўчыну, салдат адчуў у сваім сэрцы боль за яе лёс. Іх пачуцці аказаліся ўзаемнымі. Як і Надзейка, ён таксама адразу закахаўся.

...Кароткі прывал азмрочыўся бамбардзіроўкай фашысцкіх самалётаў. Бомбы ўзрываліся то тут, то там, падымаючы клубы дыму і пылу. Байцы падалі на зямлю, нібы падкошаныя. Пад гулам смяротных машын Надзя бегла да таго месца, дзе ляжаў яе каханы. Аляксей быў яшчэ жывы. Ён сыходзіў крывёй зірванай раны на жываце. Дрыготкімі рукамі, заліваючыся слязьмі, дзяўчына спрабавала перавязаць рану, але бінты імгненна чырванелі.

— Надзя!.. Надзя!.. — сцішана пазваў яе хлопец. Яна схілілася над ім і пачула: — Мілая Надзейка, я кахаю цябе! — і хутка слабеючым голасам прамовіў: — Пацалуй мяне, калі ласка.

Надзейка няўмела сваімі гарачымі вуснамі дакранулася да халаднеючых вуснаў каханага…

Праз некалькі хвілін побач з імі грымнуў выбух, які засыпаў зямлёй два маладыя целы.

У іх жыцці гэта быў першы і апошні пацалунак.

## Развітальны вальс

— Проста як у снежні! — з лёгкім раздражненнем у голасе сказала пажылая жанчына, захутваючыся ў лёгкае паліто і адварочваючы маршчыністы твар ад колкага ветру.

«І сапраўды, развітальны вальс зімы! — з зачараваннем падумала я і адзначыла для сябе. — А гэта ж сёння дзень вясенняга раўнадзенства — пачатак вясны па астранамічным календары…»

Яшчэ ўчора ўсё гаварыла пра тое, што адступае зіма. Сонейка падымалася высока ў небе, на ўсю моц зіхацела, імкліва растапляла рэшткі ўжо даволі бруднага снегу. А сёння… усё зноў у бялюткай парошы.

Як я люблю такое надвор'е, нягледзячы на тое, што холадна і ветрана! Снег кружыцца і кружыцца, нібы ў танцы, падхоплены свавольнікам-ветрам, які смела і ўпэўнена вальсуе з вытанчанымі і амаль бязважкімі нявестамі-сняжынкамі, захоплівае іх у свае абдымкі, а потым, як гэта ні дзіўна, бязлітасна кідае на зямлю, утвараючы сумёты-заторы. У шпаркай віхуры ён ужо танцуе з новымі партнёркамі, якія спусціліся на зямлю ў вобразе беласнежных малюсенькіх анёлкаў.

Зіма іграе свой, магчыма, крышачку зацягнуты, развітальны акорд. І гэта мяне не засмучае, таму што напярэдадні ў няўрымслівага гарэзы-ветру новая партнёрка ў танцы — цудоўная фея вясна. А пакуль, заплюшчыўшы вочы, я трапляю ва ўладу гэтага дужага і магутнага велікана і адчуваю сябе маленькай крохкай сняжынкаю, што бялюткім матыльком пырхае над зямлёй.



Фота Кастуся Дробава

## Спатканне з лёсам

На зямлі на ўсю моц гаспадарыла вясна. Сакавіцкае сонейка падымалася высока ў небе, ярка зіхацела гарачымі промнямі і саграваля зямлю. Снежныя праталіны пашыраліся проста-такі на вачах. Весела бруіліся і беглі ручайкі. Вясенні настрой адчуваўся скрозь...

Бег па горадзе аўтобус. Сярод пасажыраў была маладая дзяўчына. Светла-русыя густыя валасы аблямоўвалі яе прыгожы твар, на якім вылучаліся вялікія выразныя вочы.

У прыўзнятым настроі яна з цікавасцю азірала зменлівую панараму за вокнамі аўтобуса. І вось на адным з прыпынкаў у салон зайшоў ён — высокі і станісты хлопец. Іх погляды сустрэліся, і прыгажуня імгненна трапіла ў палон яго вачэй. А ён у гэты момант адчуў магічнае прыцягненне яе блакітных вочак-азёрцаў. Нейкі час маладыя людзі не маглі адвесці позіркі і, нібы зачараваныя, пяшчотна глядзелі адно на аднаго. Сэрца дзяўчыны ўсхвалявана затрапятала, яна адчула, што сустрэла свой... лёс! Штосьці падобнае адбывалася і з хлопцам...

Хутка рухаўся аўтобус. Вось і яе прыпынак. Калі дзверцы адчыніліся, дзяўчына адчула трапяткі дотык да сваёй далоні: побач стаяў ён...

А ўвечары яны няспешна крочылі па вуліцах любімага горада. Ён моцна трымаў яе за руку, нібы баяўся адпусціць ад сябе. Прыемная цеплыня яго далоні саграваля і напаўняла яе душу ціхай і пяшчотнай мелодыяй. Ва ўнісон, блізка-блізка і часта-часта, стукалі іх сэрцы і, нібы два вясення ручайкі, злучаліся ў адзіны матыў закаханасці. Гэты матыў складаў новую песню — іх песню, асаблівую і непаўторную. Каб не парушыць гэту ідылію, пакінем нашых герояў сам-насам...

## Сустрэча з Полацкам

Няспешна крочу па вуліцах старажытнага горада Полацка, і мяне сустракаюць мае славутыя землякі…

Я ўдзячна скульптару Аляксандру Прохараву за сустрэчу з Усяславам Чарадзеем, узнёслым і былінным уладаром Полацкага княства. Сеўшы на імклівага каня, дужы і бясстрашны князь кіруе баявой дружынай. Па загадзе слыннага палачаніна быў пабудаваны Сафійскі сабор, які велічна стаіць на беразе Заходняй Дзвіны.

Нізкі паклон скульптару Ігару Голубеву за сустрэчу з Еўфрасінняй Полацкай, прыгажуняй-князёўнай і ўнучкай Усяслава Чарадзея. Асветніцу XII стагоддзя і прападобную Еўфрасінню Полацкую ведаюць ва ўсім свеце. Свайму народу яна пакінула манастыр з цудоўнай Спаса-Праабражэнскай царквой і Крыжам-святыняй.

Шчыра дзякую скульптару Аляксею Глебаву за сустрэчу з Францыскам Скарынам, сусветна вядомым першадрукаром, вучоным, пісьменнікам. Скарынаўская Біблія, якая ўбачыла свет у 1517 годзе, дапамагла наблізіць друкаваную кнігу да ўсходнеславянскага народа, зрабіць яе даступнай кожнаму.

Дзякуй і табе, скульптар Аляксандр Фінскі, за сустрэчу з Сімяонам Полацкім, філосафам, паэтам-лацiністам XVII стагоддзя, педагогам, грамадскім і царкоўным дзеячам. З прыходам Сімяона Полацкага ў Богаяўленскі манастыр, дзе ён стаў праваслаўным манахам і настаўнікам, была створана першая школа беларускіх літаратараў.

…Няспешна крочаць па вуліцах старажытнага горада Полацка мае пераемнікі (дзеці, унукі, праўнукі), і іх сустракаюць славутыя і знакамітыя землякі…

## Рачулка першага кахання

Яны ішлі па сцяжынцы ўздоўж маляўнічага берага маленькай рачулкі, прываблівыя і маладыя, захопленыя ў палон узнёслых і трапяткіх пачуццяў першага кахання. Вакол іх раскінуліся прыгожыя краявіды, рачулка шчодра несла свае воды ўдалячынь.

Іх сэрцы, здавалася, вырвуцца з грудзей і крылатымі птушкамі падымуцца над зямлёй, узнясуцца высока, да самых сініх-сініх, бясхмарных нябёсаў.

Ён, нерашучы і далікатны, абдымаючы яе прыгожы стан, замілавана і ласкава шаптаў:

— Ты маё каханне! Ты маё шчасце! Ты мой лёс!..

Яе цела ўсхвалявана і сарамліва адгукалася на цеплыню і пяшчоту яго далоняў. Дзяўчына, адчуваючы на шчацэ палкасць гарачых вуснаў юнака, з заміраннем сэрца слухала яго, а ў летуценных думках ужо звярталася да яе — такой дарагой і роднай рэчанькі-рачулкі.

Звярталася да той, якая памятала іх з маленства, з тых самых часоў, калі яны яшчэ зусім дзецьмі ўпершыню пры падтрымцы матулі і таткі баязліва і нерашуча ступалі і акуналіся ў яе чыстую і празрыстую ваду. Калі яны падлеткамі весела і гаманліва ўзбіраліся на круты і абрывісты бераг, каб на глыбіні смела і ўпэўнена даць нырца. Калі іх ужо юнымі, разгарачанымі пад пякучым летнім сонейкам, прыемна ахалоджвала сваёй свежасцю вада і аблашчвалі-суцяшалі няўрымслівыя хвалі.

Пераменлівая ў сваім настроі рачулка была сведкай таго, як яны раслі і сталелі. Была сведкай іх першага незабыўнаўражлівага спаткання; першага поўнага асалоды кахання; першага няўпэўненага і сарамлівага пацалунка…

Думкі юнай прыгажуні непаслухмяна вырваліся на паверхню і разнесліся па наваколлі: «Рачулка майго жыцця, маіх мараў, майго кахання!.. Мая любімая рачулка!»

Глыбокімі і чыстымі пачуццямі, як вада ў гэтай гуллівай рачулцы, былі запоўненыя ўзнёслыя душы закаханых.

# Не растрачаны пісьмёны…

Традыцыйна Дзень беларускага пісьменства ўяўляе сабой свята і літаратурнае, і гістарычна значнае, — дзякуючы невыпадковаму абранню горадоўсталіц. За 20 год імі па чарзе станавіліся Полацк, Тураў, Нясвіж, Мсціслаў, Пінск, Смаргонь, Паставы… і, нарэшце, Быхаў. Менавіта з быхаўскай зямлёй звязаная гісторыя Баркулабаўскага летапісу — аднаго з найбуйнейшых помнікаў беларускага пісьменства. Менавіта на Быхаўшчыне доўгі час жылі і працавалі вядомыя асветнікі XVII ст. Мялецій Смятрыцкі і Лаўрэнцій Зізаній. Ужо ў XVIII стагоддзі тут была свая бібліятэка. Вядомыя пісьменнікі, філолагі, журналісты нашых дзён — таксама маюць повязь з гэтай зямлёй: Міхась Пазнякоў, Барыс Стральцоў, Васіль Ткачоў, Міхась Мушынскі. Дзень пісьменства — нагода аддаць даніну ўвагі і павагі беларускаму слову, падмурку дзяржаўнасці і культуры. Зрэшты, гэта падзяка Слову ўвогуле, праз якое, паводле Бібліі, «усё пачало быць».

Сімвалічна, што дзякуючы правядзенню Дзён пісьменства пачынае віраваць жыццё яго сталіц. Не выключэнне і Быхаў. Актывізацыя рэстаўрацыйных работ у старажытным Быхаўскім замку, кардынальная рэканструкцыя раённага Цэнтра культуры, капітальны рамонт кінатэатра «Радзіма» (аднаго з найстарэйшых у рэспубліцы — сёлета яму сто год!), адкрыццё новага басейна, добраўпарадкаванне чыгуначнага і аўтавакзалаў з усёй прылеглай тэрыторыяй, мадэрнізацыя гарадскога парку — найбольш паказальныя аб'екты, стымулам адраджэння ці нараджэння якіх стала прадстаўнічае дзяржаўнае свята.

Вядома, што ўнікальны імідж горада, яго духоўнае і фізічнае аблічча шмат у чым вызначаюць манументы і помнікі. Дзень пісьменства стаў нагодай падарыць такі знакавы помнік і Быхаву. Манументальна-скульптурная кампазіцыя «Баркулабаўскі летапіс» створаная ў форме Кнігі. Але незвычайнай: абраз Божай Маці на адным развароце з пісьмёнамі нагадвае пра духоўны, «боскі» пачатак пісьмовай справы. Вядома ж — і пра адпаведную адказнасць, бо літаратура вызначае будучыню. Дарэчы, пра гэта нагадалі ўдзельнікі Полацкага тэатра «Пілігрым» на святочным канцэрце: тыя, хто стварылі Баркулабаўскі летапіс ды іншыя падобныя крыніцы, дбалі пра заўтрашні дзень, то бок пра нас. Гэтаксама і наша слова адгукнецца ў свядомасці нашчадкаў.



*Валерый Казакоў і Мікола Мятліцкі.*



*Ажыўшы летапісец.*



*Барыс Кавалерчык.*



*Кацярына Хадасевіч-Лісавая.*



*Помнік «Баркулабаўскі летапіс».*

Духоўны патэнцыял Слова сучаснай Беларусі прадстаўлены ў кнігах лаўрэатаў Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «Лепшы твор года». Віншуючы пераможцаў, выказваючы свой запавет святу, яго гасцям і ўдзельнікам, а таксама нашчадкам, паэт Мікола Мятліцкі вымавіў прачула: «Хацелася б, каб дамінантай XXI стагоддзя стала духоўнасць, каб людзі дабрэлі ад мастацкага слова».

Адметнасць сучасных святаў — размах. Урачыстым мусіць быць горад цалкам. Свята — не толькі прамовы, ушанаванні і канцэрты, але стан душы. Яго ствараюць і мноства, так бы мовіць, неафіцыйных рэчаў — прыкладам, прэзентацыі шматлікіх і шматстайных сялянскіх падворкаў, кожны з якіх заяўляе пра сябе з адпаведным імпэтам і густам.

У Быхаве была створаная і «другая забудова»: павільёны «Беларуская кніга і прэса», «Праекты Саюзнай дзяржавы», «СМІ Магілёўшчыны», прэс-клуб, працавалі выставачныя экспазіцыі (статычныя і рухомыя), сярод якіх найбольш уразіла «Літаратурная спадчына ад крыніц да сучаснасці». Тут жа ладзіліся творчыя прэзентацыі, грамадска-культурныя акцыі, сустрэчы з пісьменнікамі, выдаўцамі, журналістамі, работнікамі бібліятэк і краязнаўчых музеяў. Дзень пісьменства — свята, якое збірае значную частку літаратурнага «бамонду», і ёсць магчымасць на ўласныя вочы пабачыць «жывых пісьменнікаў», паслухаць, задаць пытанне, нават падыскутаваць на папулярную тэму «Што пачытаць?» Звыклай практыкай стала прэзентаванне пісьменнікамі сваіх кніг адно аднаму і прэсе — удзячнай аўдыторыі, з'яўленне сярод якой чалавека «з вуліцы» выглядае нечаканасцю. Шкада толькі, што гасцям, якія прыехалі на адзін асноўны дзень святкавання (значнай частцы выдаўцоў, пісьменнікаў, журналістаў), з-за недахопу часу не выпала патрапіць на месца старажытнага замчышча, і славутыя краявіды Быхава засталіся «за кадрам» іх успрымання.

Уражанні, аднак, пераважаюць светлыя, станоўчыя. Адзін з галоўных герояў Дня пісьменства — гомельскі пісьменніксатырык Барыс Кавалерчык, які атрымаў «Залатога Купідона», не хавае шчырага хвалявання і задавальнення: «У жыцці мне давялося шмат паездзіць па краіне, але ў Быхаве раней не бываў. Парадаваў мяне гэты старажытны беларускі горад сваёй прыгажосцю, утульнасцю, гасціннасцю, актыўным удзелам гараджан у правядзенні свята. Адчувалася, што яно прыйшлося ім па сэрцы і праходзіць яно не фармальна, што ў жыхароў ёсць інтарэс да нашай літаратурнай спадчыны. Нялёгка напісаць значную кнігу і не лягчэй яе выдаць. Але трэба заўсёды заставацца аптымістам. У песіміста добрае — у мінулым, у аптыміста — наперадзе».

Ва ўнісон са старэйшым калегам выказалася маладая пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая: «Для мяне юбілейнае XX свята ў Быхаве стала асаблівым. Я атрымала дыплом II ступені ў галіне дзіцячай літаратуры за кнігу «Касмічная адысея хлопчыка Стасіка». Гэта мая першая ўзнагарода такога высокага ўзроўню, якая дае выдатны стымул для далейшай працы. Хочацца падзякаваць журы за высокую ацэнку маёй творчасці. Таксама павіншаваць калег, якія разам са мной атрымлівалі ўзнагароды. Спадзяюся, чытачы, даведаўшыся пра вынікі рэспубліканскага конкурсу, звернуць увагу на адзначаныя творы і прачытаюць іх. А самае галоўнае для пісьменніка — гэта калі яго чытаюць».

Сэрцам свята стала, зразумела, галоўная сцэна, на якой вялі рэй прадстаўнікі кіраўніцтва краіны, мясцовай улады, выступалі тэатральныя, музычныя калектывы (вакальная група «Благавест», аркестр імя Іванова з дырыжорам Мікалаем Алданавым, Полацкі тэатр «Пілігрым»), выканаўцы, сярод якіх знакамітыя Алена Ланская і Таццяна Лазоўская, быхаўчанка, салістка ансамбля «Бяседа» . Сапраўдная раскоша панавала на сцэне падчас Парада гарадоў, што прымалі Дзень беларускага пісьменства ў мінулыя гады. Галоўная канцэртная пляцоўка, як і шэраг акаляючых яе ў іншых месцах горада, працавала да позняга вечара. Нядзіўна, што шыкоўнае свята нават займела свой гімн: гасцям урачыста прадставілі прэм'еру песні «Дзень беларускага пісьменства» на музыку Алега Елісеенкава і словы Алеся Бадака.

Усе нагоды і выгоды Свята беларускага пісьменства ў наступным годзе атрымае старажытны горад Заслаўе. Улічваючы блізкасць да сталіцы, гасцей і ўдзельнікаў чакаецца шмат. Галоўнае толькі, каб на першым месцы для ўсіх стаяла Кніга.

**Таццяна СТУДЗЕНКА,**
**фота аўтара**



Кніжны свет

6 верасня 2013 г.

# Што чыталі летам?




## СПРОБА АБ'ЕКТЫЎНАГА РЭЙТЫНГУ

Цалкам лагічна ў першым восеньскім нумары «ЛіМа» падвесці рысу пад летнім сезонам. І ў якасці такой «рысы» мы абралі рэйтынг самых папулярных кніг, што чыталіся беларусамі ў спякотныя, мінулыя ўжо дні. Зразумела, ахапіць усю краіну мы не маглі з прычын фізічных, таму «палявыя працы» праводзіліся ў Мінску, у чатырох самых буйных і папулярных кнігарнях: «Светач», «Цэнтральная», «Веды» і «Акадэмкніга».

Напачатку была думка стварыць адзін рэйтынг па выніках чатырох «лакальных», аднак высветлілася, што яны розняцца, і даволі моцна. Такім чынам, чатыры спісы, кожны з дзвюх частак — асобна замежная літаратура і беларуская — да вашай увагі.

### «СВЕТАЧ»: САПРАЎДЫ ВЯЛІКІ ГЭТСБІ

1. «Вялікі Гэтсбі», Ф. С. Фіцджэральд.
2. «50 адценняў шэрага», Э. Л. Джэймс.
3. «Дзённік свекрыві», М. Мятліцкая.
4. Серыя «Цудоўнае стагоддзе», Н. Паўлішчава.
5. Трохкніжжа «Абарваныя ніткі», А. Марыніна.

1. У. Караткевіч: 1, 2, 4 тамы Збору твораў.
2. «Дзікае паляванне караля Стаха», зноў жа — Караткевіч.

Поспех рамана Фрэнсіса Скота Фіцджэральда «Вялікі Гэтсбі» можа здзівіць хіба што пустэльніка, які ў кіно быў як мінімум год таму і ў пячоры якога няма сеціва. Пасля экранізацыі рамана выбухнулі спрэчкі. Адны ў праведным гневе даводзілі, што рэжысёр Баз Лурман сапсаваў вытанчаны літаратурны шэдэўр, зрабіўшы з яго бязглузды, крыклівы і безгустоўна стракаты мюзікл. Другія пляскалі ў далоні, з асалодай шукалі ў фільме паралелі з сучаснасцю і спамтоўвалі музыку. Але істотна тое, што людзі, якія раней раман не чыталі, узяліся за яго імгненна. Ёсць звесткі, што пасля экранізацыі «Вялікага Гэтсбі» продажы рамана былі большыя, чым сумарны тыраж усіх кніг Фіцджэральда, прададзеных да таго. Не ведаю, ці радаваўся б такой навіне сам Фрэнсіс. Аднак па ўсім відаць, што беларускі чытач ад сусветнага не адстае.

Што да Караткевіча — тут таксама дзівіцца няма чаму. Уладзімір Сямёнавіч быў, ёсць і будзе самым чытаным аўтарам на Беларусі і адным з самых знакамітых нашых пісьменнікаў за мяжой. Кнігі Караткевіча ніколі не затрымліваюцца на паліцах, аднак цяпер уся чытацкая ўвага аддадзеная новаму збору твораў.

Асобным шэрагам у «Светачы» стаяць выданні «турыстычныя» — альбомы, гісторыя Беларусі, энцыклапедыі па народнай культуры і г. д. Сярод іх хітом сезона стала кніга «Беларускі народны касцюм».

### «ЦЭНТРАЛЬНАЯ»: МАРЦІНОВІЧ СУПРАЦЬ КАРАТКЕВІЧА

1. «50 адценняў шэрага», Э. Л. Джэймс.
2. «Вялікі Гэтсбі», Ф. С. Фіцджэральд.
3. «Гульня тронаў», Дж. Марцін.
4. «Жыццё ў пазыку», Э. М. Рэмарк.
5. «1984», Дж. Оруэл / «Майстар і Маргарыта», М. Булгакаў.

1. «Сфагнум», В. Марціновіч.
2. 4-ты том Збору твораў Караткевіча.
3. «Авантуры Пранціша Вырвіча…» і «Ночы на Плябанскіх млынах» Л. Рублеўскай.
4. «Сябрына», Р. Барадулін.

Пра самую папулярную кнігу ў «Цэнтральнай» кнігарні гаварылі неахвотна. Загадчыца аддзела замежнай літаратуры, назваўшы «50 адценняў шэрага», як бы вінавата паціснула плячыма: маўляў, што зробіш. І сапраўды, факт ёсць факт! Аднак адразу ж за памянёным раманам мы зноў бачым «Вялікага Гэтсбі», што дае яму дадатковыя правы звацца абсалютным пераможцам лета-2013.

Джордж Марцін. Яго «Гульня тронаў», напісаная яшчэ ў 1996 годзе, стала сусветна папулярнай пасля выхаду аднайменнага серыяла. Варта зазначыць, што ўвесь цыкл фэнтэзі называецца «Песня лёду і полымя», і на сёння выйшла пяць кніг. Адпаведна, чытаецца не толькі першая. Так, на маіх вачах адна дзяўчына пыталася пра пятую кнігу «Танец з драконамі», а калі даведалася, што яе ўжо раскупілі, усур'ёз зажурылася.

Пра Рэмарка, Оруэла і Булгакава сказалі наступнае: гэта аўтары, якіх купляюць заўсёды. Мода мінае, а іх кнігі пытаюць штодзень. Таксама палюбілася беларусам серыя, якая з'явілася акурат напачатку лета, — ««Лениздат» классика» — недарагая і густоўна зробленая.

Што да беларускай літаратуры, то «Сфагнум» літаральна змяталі з паліц, так што вельмі хутка не засталося ніводнага асобніка. Тое ж было і з 4-м томам Збору твораў Караткевіча — цяпер яго ў «Цэнтральнай» няма.

### «ВЕДЫ»: КАЛІ ПОБАЧ ФІЛФАК

1. Серыя ««Лениздат» классика».
2. «1984», Дж. Оруэл.
3. «Бесы», Ф. Дастаеўскі.
4. «50 адценняў шэрага», Э. Л. Джэймс.

1. «Краіна Беларусь», У. Арлоў.
2. 2-гі том Збору твораў Караткевіча.
3. «Таямніцы Нясвіжскага замка», А. Бутэвіч.
4. «Ночы на Плябанскіх млынах» і «Сутарэнні Ромула» Л. Рублеўскай.
5. «Сфагнум», В. Марціновіч.
6. А. Адамовіч, том з серыі «Беларускі кнігазбор».

Так, у «Ведах» хітом продажаў стала не адна асобная кніга, але цэлая серыя. Вылучаецца кнігарня яшчэ і тым, што папулярныя «адценні шэрага» знаходзяцца не на першым і нават не на другім месцы. У адказ на маё здзіўленне, выказанае з гэтай нагоды, прагучала: «А што вы хацелі? У нас жа філфак побач». І тое праўда. Гэта тлумачыць высокія пазіцыі змрочнага Дастаеўскага і вольналюбівага Оруэла. Зрэшты, да апошняга беларусы заўжды мелі сімпатыю.

Выбіваецца з агульнай карціны і «беларускі спіс». Так, «Сфагнум» тут здаў пазіцыі. Са Збору твораў Караткевіча чытачы аблюбавалі не новы чацвёрты том, але другі, у якім змешчаны паэтычныя творы пісьменніка. А ў лідары выйшла багата ілюстраваная кніга Уладзіміра Арлова.

Відаць, суседства з філфакам сапраўды ўплывае на жыццё «Ведаў».

### «АКАДЭМКНІГА»: ПЕРАМАГАЕ КЛАСІКА

1. «Віно з дзьмухаўцоў», Р. Брэдберы.
2. «Вялікі Гэтсбі» і «Ноч пяшчотная» Ф. С. Фіцджэральда.
3. Рэмарк і Хэмінгуэй.
4. «Над прорваю ў жыце», Дж. Д. Сэлінджэр.
5. «Ідыёт» і «Бесы» Ф. Дастаеўскага.

1. Уладзімір Караткевіч.
2. «Сфагнум», В. Марціновіч.
3. «Сэрца на далоні», І. Шамякін.
4. Адам Глобус.
5. Людміла Рублеўская.

Вы бачыце імёны пісьменнікаў без назваў іх твораў, але гэтаму ёсць тлумачэнне: папулярныя не пэўныя кнігі, але самі аўтары. Абсалютны лідар сярод беларускіх пісьменнікаў — Уладзімір Караткевіч. Ён не толькі самы чытаны ў летні сезон, але ўвогуле — самы-самы (пра што мы пісалі яшчэ напачатку). Цытуючы супрацоўнікаў «Акадэмкнігі», «яго бяруць у любым выглядзе». Да «беларускага спіса» варта дадаць: пераклады замежных аўтараў на беларускую мову (Дзікенс, Толкін, Мілаш і інш.); «Пан Тадэвуш» А. Міцкевіча і як аўтары — Алесь Марціновіч і Раіса Баравікова; «залатое трыа» беларускай паэзіі — Колас, Купала, Багдановіч.

Што да замежнай літаратуры, тут «Акадэмкніга» яшчэ раз пацвердзіла свой статус самай сур'ёзнай кнігарні Мінска.

Пасля ўсяго сказанага застаецца толькі падсумаваць: летам 2013 года беларусы зачытваліся «Вялікім Гэтсбі» Фіцджэральда і старым добрым Караткевічам.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

*Прэзентацыя*

# Гатаваць — з настроем!

Калі мы з сястрой былі маленькімі, то елі не проста кашу, а калабка з вачыма, носам, вушамі. Пагадзіцеся, намнога цікавей есці вока, нос, вуха прыдуманага героя, чым проста «лыжачку за маму». Галоўнае ж — легенда і гісторыя. У цікавую прыгоду і нават гульню для дзяцей можна ператварыць не толькі прыём ежы, але і працэс яе прыгатавання, сервіроўку стала. Навучыць бацькоў, як гэта зрабіць, а таксама падказаць маленькім кулінарам цікавыя рэцэпты дапаможа «Дзіцячая кулінарная энцыклапедыя: гатуем разам», што пабачыла свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

«Каб прывіць дзецям цікавасць да кулінарыі і прынесці ім радасць, варта прыцягваць іх да сумеснага складання дамашняга меню, прыгатавання ежы, сервіроўкі і ўпрыгожвання стала», — піша аўтар энцыклапедыі Уладзімір Мартынаў. Сапраўды, гэта дапаможа дзецям адчуць сябе маленькімі гаспадарамі. Больш за тое, дапамагаць у сервіроўцы, разам з усёй сям'ёй сядзець за сталом, бачыць, як дарослыя ядуць з апетытам — у некаторай ступені адзін з аспектаў сацыялізацыі асобы.

Складана нават дакладна вызначыць, каму будзе больш цікавая і карысная гэтая кніга — дзецям ці бацькам. Дарослым яна падкажа прыёмы, якімі можна зацікавіць дзяцей светам кухні, а дзецям распавядзе, як прыгатаваць простыя і больш складаныя стравы. Так, у выданні прыводзяцца падрабязныя рэцэпты і інструкцыі, паказваюцца кухонныя прылады і набор неабходных прадуктаў. Больш за тое, амаль да кожнага рэцэпта дадаецца цікавая «легенда». Да прыкладу, простыя бутэрброд «Караблік»: белы хлеб з маслам і сырам — аўтар апісвае вось як: «На гэтым караблік можна выправіцца ў далёкае плаванне адразу за




сталом. Варта толькі паставіць ветразь і дачакацца спадарожнага ветру і добрага апетыту».

«Дзіцячая кулінарная энцыклапедыя» можа стаць выдатным падручнікам па сервіроўцы стала, этыкеце паводзінаў падчас прыёмаў ежы, правільных і бяспечных дзеяннях падчас прыгатавання. Выданне пашырыць кругагляд маленькага чытача, а невялікі слоўнічак у канцы кнігі пазнаёміць са значэннем невядомых слоў.

Як звычайны агурок ператварыць у кракадзіла — элемент «Вясёлай салаты», нафаршыраваць памідоры, «прыгатаваць грыбы-мухаморы», спячы міні-кіш (адкрыты пірог, падобны да піцы), зрабіць дамашні ліманад і пры гэтым працэс прыгатавання стравы зрабіць як мага больш простым і цікавым, прыцягнуць да справы дзяцей? Адказы на ўсе пытанні — у «Дзіцячай кулінарнай энцыклапедыі».

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Падарунак фанату

Не так даўно ў Вільнюсе адкрыўся гіпермаркет ІКЕА. Якая сувязь з кнігамі? — спытаецеся вы. Самая непасрэдная. На адкрыцці прысутнічала прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ. Апроч выканання ганаровых функцый па ўрачыстым адкрыцці крамы, спадарыня прэзідэнт зрабіла і пакупкі. У яе кошыку сярод іншых прадметаў журналісты заўважылі трымальнік для кніг і прыстасаванне, каб даставаць кнігі з верхніх паліц.

Я ж падумала пра тое, што кнігі, насамрэч, ствараюць вакол сябе цэлую індустрыю спадарожных сфер. Гэта тыя ж прыстасаванні для працы з кнігамі, якія набыла сабе спадарыня Грыбаўскайтэ. А як толькі не спаборнічаюць паміж сабой дызайнеры мэблі, прадстаўляючы нам новыя і новыя кніжныя паліцы невераговых форм і канструкцый.

Дарэчы, пра дызайн. Не так даўно давялося мне правесці выходныя ў цудоўным горадзе Вільнюсе. Асаблівай мэты ў мяне не было, і лабірынты старых вуліц прывялі мяне да касцёла Святога Духа. Амаль насупраць гэтай святыні знаходзіцца проста фантастычны кніжны магазін. У ім сабраныя выданні, прысвечаныя розным відам мастацтва: кіно, модзе, дызайну, жывапісу... Кнігі, дарэчы, не толькі на літоўскай мове, а ў большасці на англійскай, французскай і рускай. І якое ж было маё здзіўленне, калі я ўзяла ў рукі кнігу, выданне якой у нашай краіне мог бы здзейсніць толькі вар'ят ці фанат. Гэтая кніга была прысвечана кнігам! Дакладней, таму, як іх правільна «ўпісаць» у любы па стылі інтэр'ер, у жытло любога памеру. А гэта сапраўднае мастацтва.

Якія толькі рашэнні ні прапаноўвалі аўтары, даказваючы, што маленькая кватэра зусім не перашкода для кнігалюба. І што самае дзіўнае — гэтай тэме было прысвечана некалькі выданняў. Хіба можна не парадавацца? І ці не з'яўляецца гэта прыкметай таго, што чуткі пра смерць кнігі крыху перабольшаныя? Ці стаў бы заходні выдавец укладаць немалыя сродкі ў кнігу, якая не будзе мець чытача? Значыць, тэма «кніга ў інтэр'еры» запатрабаваная і актуальная.

Калі я выйшла з крамы, літаральна праз некалькі крокаў напаткала дзяўчыну, якая, уладкаваўшыся ў нішы старога дома, проста на вуліцы сядзела і чытала кнігу. Цудоўная сцэна, ці не так? Але маю ўвагу прыцягнула закладка, якая паблісквала на сонцы. Гэта было нешта падобнае на скандынаўскі рог з магічным званочкам. Я адразу вырашыла: пачну збіраць калекцыю незвычайных кніжных закладак.

Сапраўды, свет кніг — чароўны. Гэта не толькі свет цудоўных гісторый, святло ісціны і новых ведаў. Кнігі акружаныя ўласным светам рэчаў, такім утульным і яркім, што не грэх у ім згубіцца на некалькі гадзін. Як і людзі, нашы папяровыя сябры вартыя самага лепшага адзення (вокладак), шыкоўных аксесуараў (закладак) і прасторных, зручных дамоў (паліц). А калі згадаць, што кніжны бізнес — усё ж бізнес, то ўявіце, якія шырокія і нявыкарыстаныя магчымасці адкрываюцца перад айчыннымі выдаўцамі і гандлярамі.

Я за прыгожы і вытанчаны свет разумных кніг!

# Захопленасць перакладам

Ніну Дзябольскую ў Мінску ведаюць досыць добра. Яна паэтэса, мастачка, выкладчыца, але — самае галоўнае — перакладчыца беларускай паэзіі на французскую мову. Не так даўно ў спадарыні Ніны ў Мінску выйшлі дзве кнігі: зборнік яе ўласных твораў (дарэчы, у афармленні вокладкі гэтага выдання выкарыстана карціна аўтаркі) і кніга вершаў беларускіх, рускіх і польскіх паэтаў у перакладзе на французскую мову. Перакладчыца досыць часта наведваецца ў Беларусь з Масквы: на імпрэзы па запрашэнні Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, у санаторый ці проста выпраўляецца ў падарожжа па краіне. Падчас нядаўняга візіту Ніны Дзябольскай у нашу сталіцу, карэспандэнт «Кніжнага свету» атрымала магчымасць пагутарыць з шаноўнай госцяй. Натуральна, тэмай гаворкі стаў пераклад.



**— Ніна Сяргееўна, вы перакладаеце беларускую паэзію на французскую мову. Нават сцвярджаеце, што беларуская мова блізкая па гучанні з французскай. Ці сапраўды гэта так?**

— З самага пачатку, калі я пераклала верш Максіма Багдановіча «Шэрая зязюля» даслоўна, амаль не мяняючы месцамі словаў, радкоў, атрымаўся паўнавартасны верш, з рыфмай, з тым жа рытмам. Так жа было і з творамі Рыгора Барадуліна. Я не магу сказаць гэта пра ўсе вершы, часам даводзіцца шмат працаваць ці зусім адмаўляцца ад перакладу, бо нічога не атрымліваецца. Але многія паэты паддаюцца вось такому «лёгкаму перакладу». Зусім нядаўна я прачытала пераклады вершаў Гіёма Апалінэра на беларускую мову, зробленыя Эдзі Агняцвет, і яшчэ раз пераканалася, што беларуская і французская мовы маюць нешта агульнае ва ўнутраным рытме мовы. Эдзі Агняцвет выдатна перакладала Апалінэра. Пры гэтым я ўпэўнена, што яна працавала з падрадкоўнікам, нават не ведаючы мовы.

**— Як атрымалася, што вы захапіліся перакладам беларускай паэзіі?**

— Калі я даведалася, што вершы Максіма Багдановіча перакладалі на англійскую мову, мне проста стала цікава, як ён гучыць па-французску. Тады я яшчэ не ведала, што існуе анталогія беларускай паэзіі на французскай мове, выдадзеная ў 1980-я гады пад эгідай ЮНЕСКА, трохі пазней яе пабачыла. На жаль, у гэтай кнізе было многа проста падрадковых перакладаў. Я ж спачатку паспрабавала проста для сябе, з цікавасці, перакласці некалькі вершаў Максіма Багдановіча. Мне гэтая справа вельмі спадабалася, бо адразу атрымаўся на дзіва ўдалы пераклад, і працэс проста захапіў. Нават цяпер я час ад часу вяртаюся да твораў тых паэтаў, якіх перакладала год 10 таму, раблю новыя перастварэнні іх твораў ужо па-французску. Пазнаёмілася і з сучаснымі беларускімі паэтамі, нават пасябравала з некаторымі з іх. Я займаюся перакладам беларускай паэзіі на французскую мову ўжо больш як 10 год. Спачатку працавала раз на месяц, раз на два-тры месяцы, цяпер гэта мой любімы занятак. Спрабавала перакладаць з польскай мовы творы Чэслава Мілаша. Спачатку ён мяне не закрануў як паэт, але паступова я пачала разумець яго паэзію глыбей, хоць і лічу, што аўтар паказвае ў вершах погляд нейкага крыху адасобленага чалавека. Цяпер зноў вырашыла вярнуцца да беларускай паэзіі і працягваць гэтую працу, пакуль хопіць сіл і магчымасцей.

**— Кажуць, што немагчыма зрабіць добры пераклад па разліку, без любові перакладчыка да паэўнага верша. Як вы выбіраеце творы для перакладу?**

— Спачатку выбірала вершы, якія проста былі кароткімі. Калі ў мяне яшчэ не было досведу ў перакладах, браца за доўгі верш, нават той, які мне падабаецца, азначала проста згубіць час. Мне ў цэлым падабаецца беларуская паэзія. Неяк спрабавала знайсці аўтараў, якіх мне захацелася б перакласці на французскую, у рускай сучаснай паэзіі, але гэта апынулася вельмі складана. З рускай мовы я перакладала творы толькі двух паэтаў.

**— Ці ёсць беларускія паэты, якіх вы асабліва любіце перакладаць?**

— Канечне. Гэта Рыгор Барадулін і Алесь Разанаў. Асабліва люблю перакладаць вершы Алеся Разанава. Яны кароткія, амаль без рыфмы, па сутнасці, гэта толькі паэтычныя вобразы, якія — што дзіўна — перакладаюцца на французскую мову рыфмай. Так здараецца і пры працы з творамі іншых паэтаў: белыя вершы пасля перакладу становяцца рыфмаванымі. Гэта, напэўна, сакрэт нейкі. Магу адзначыць, што пераклад паэзіі апошнім часам стаў для мяне проста прафесіяй. Вельмі цікава «капацца» ў французскіх слоўніках, знаходзіць слова, якое можна без памылак ужываць у дадзеным кантэксце. У мяне ёсць выдатныя слоўнікі, дзе не проста прыводзяцца значэнні слоў, але і даюцца прыклады з літаратуры, з вершаў вядомых французскіх паэтаў. І пакуль я не знайду «правільнае» слова, не супакойваюся. Гэта вельмі захапляльная праца. Дзякуючы багаццю і гнуткасці французскай мовы, перакладаць на яе вельмі цікава.

**— Зразумела, што вам як перакладчыку праца прыносіць задавальненне, нам, беларускім чытачам, таксама прыемна, бо наша паэзія атрымлівае новае жыццё — ужо на французскай мове. А як успрымаюць вашы пераклады непасрэдныя «спажыўцы», носьбіты французскай мовы?**

— Калі я толькі пачынала перакладаць, то раілася з кансультантамі. У Маскве ў той час працаваў журналіст з Францыі. Былі французы-выкладчыкі, я мела знаёмства з супрацоўніцай аднаго выдавецтва, ураджэнкай Канады. У цэлым, усім, хто добра валодаў французскай мовай, я паказвала свае пераклады. Мне рабілі вельмі карысныя, нават неабходныя заўвагі. Але мяне асабліва здзіўляла тое, што ў момантах, дзе я была ўпэўненая ў правільнасці перакладу, маглі быць памылкі, там жа, дзе я вагалася, усё было добра. А не так даўно аднаму знаёмаму навукоўцу, які вельмі любіць паэзію, я паказвала свае пераклады вершаў Алеся Разанава, ён нават сказаў, што такая кніга можа быць выдадзена ў Францыі. Але рэальных шляхоў да выдання кніг у гэтай краіне я пакуль не знайшла. Надоечы ў Рыбінску адкрыўся Цэнтр французскай культуры, там мае кнігі перакладаў таксама атрымалі станоўчую ацэнку.

Марына ВЕСЯЛУХА, фота аўтара

Ніна ДЗЯБОЛЬСКАЯ

### Дарога ў Пераслаўль

*Ля гасцінцаў лашчыцца арэшнік,*
*вольха серабрыстая стаіць,*
*і бяроза, як маркотны грэшнік,*
*хоча ў скразнякі слязу даліць.*
*У тапалі ліставей, рабіна*
*гронкай — як распалены — махне.*
*Сенажаць запоўненая клінам —*
*гэта статак у стадолы мкне.*
*Шэры мох, аранжавыя клёны,*
*супакой у жменечках двароў...*
*Абдымае мой пагляд натхнёны*
*восеньскае хараство дароў.*

* * *

*Дні вандруюць без мяне,*
*а вось ночы слухаць мушу.*
*Толькі вочы я прымружу —*
*госці-родзічы ў мяне.*
*Дні вандруюць без мяне.*

* * *

*За кожным новым курганом*
*узгор'е бачыцца другое.*
*Жыццё — нібыта той паром —*
*сплывае, надта ж дарагое.*
*А нам на ўзвышак, зноў у шлях,*
*каб дыхала грудзей напруга.*
*Не супыняйся на палях!*
*Твая ахова — засень друга.*

### На лецішчы

*Жвавы вецер. Возера ў трывозе.*
*І ставок у зморшчынках стаіць.*
*Зырка чырванее пры дарозе*
*барбарыс: яму красу таіць.*
*Я тут, насычаючы пагляды,*
*свой апошні гімн складу вясне.*
*У мяне засеяная ляда —*
*цішыня і возера ў акне.*

**Пераклад з рускай мовы Сяргея ПАНІЗНІКА**

(Вершы з кнігі Ніны Дзябольскай «Вершы». Мінск, 2013.)

# Финансовая история мира

За каждым великим историческим феноменом обязательно обнаружится финансовая тайна. Например, бум на рынке искусства в эпоху Возрождения возник благодаря тому, что итальянские банки применили к денежным делам материальные методы, пришедшие с Востока, сколотив на этом баснословное состояние. А знакомы с любопытной историей о том, как было введено пенсионное обеспечение в Германии? Оказывается, это сделал Бисмарк, потому что считал, что человек с пенсией лучше управляем.




Если ответы на эти вопросы вам не известны, возьмите в руки книгу **Ниала Фергюсона «Восхождение денег»**, которая вышла в ООО «Харвест». Её автор — молодой, но очень известный английский историк экономики и финансов, преподающий мировую экономическую историю в Гарвардском университете. Он написал уже девять книг, последняя из них — «Восхождение денег». Известность Фергюсону принесло первое издание, посвящённое дому Ротшильдов *The World's Banker: The History of the House of Rothschild*. Это серьёзное исследование истории одной из самых известных фамилий Европы, опубликованное в 1998 году. Толстенная книга сразу же стала бестселлером и вызвала жаркие споры среди научной общественности.

Издания Фергюсона умеют удивлять. Они становятся в какой-то степени и научным откровением, и анализом финансовых и оперативных возможностей как одного человека, так и мировых экономических гигантов. Вавилонские писцы и испанские конкистадоры, могучие финансовые бизнесмены и Алан Гринспен, художник Диего Ривера и великие мошенники Джон Ло и Кен Лей… Герои Фергюсона — люди, без которых наше настоящее было бы невозможным. А деньги… Они присутствуют в жизни каждого и немногих оставляют равнодушными, определяют исходы войн и помогают создавать прекрасные произведения искусства.

Но много ли каждый из вас знает о тех бумажках, что лежат в наших кошельках? Книга английского историка с блеском восполнит пробел в знаниях. Она написана простым и доступным языком. Чтобы понять, о чём идёт речь в «Восхождении денег», не нужно иметь экономическое образование. Остроумные замечания и познавательные факты из истории финансов разрушают многие стереотипы о деньгах, изложенные в скучных экономических учебниках. Автор просто и ясно разъясняет смысл сложных финансовых понятий и терминов, расправляется с наиболее укоренившимися заблуждениями в финансовой сфере.

> *Издание пестрит множеством библиографических ссылок, которые напоминают матрёшку: узнав один факт, вам хочется ещё больше интересных сведений и историй.*

Ниал Фергюсон восстанавливает путь, пройденный деньгами от древности до наших дней, и, разумеется, подробнейшим образом разбирает причины финансового кризиса от «А» до «Я». Как отмечает сам автор в послесловии, он не видит промаха в том, что во время кризиса его книга выходит в свет с таким оптимистическим названием. Ведь финансовая история мира развивается отнюдь не по прямой!

Издание пестрит множеством библиографических ссылок, которые напоминают матрёшку: узнав один факт, вам хочется ещё больше интересных сведений и историй. Разнообразие ссылок в книге указывает на основательную подготовку автора и его неподдельный интерес к делу. А за работой серьёзных и увлечённых людей всегда приятно следить!

Отдельный плюс книги — хорошо продуманная структура. Каждая из шести глав освещает отдельный этап в развитии денежно-финансовой картины современности. В «Немыслимых богатствах» и «Человек — человеку: долг» автор рассуждает о мире без денег и приводит исторические факты о том, как существовали без них древние цивилизации, как повлияло возникновение товарно-денежных отношений на жизнь людей. Например, мы узнаем, что представители цивилизации инков были вполне способны оценить эстетические свойства редких металлов. Золото они величали «пот солнца», серебро — «слёзы луны». Узнаем, что в империи инков мерилом ценности был труд. И только принудительный его характер со строжайшим и нередко жёстким контролем центра не давал экономике распасться на части.

В главах «Пуская пузыри» и «Как за каменной стеной» автор обращается к первопричине последнего финансового кризиса, изучая сложнейшие финансовые инструменты и анализируя последствия невыполнения экономических обязательств, охватывающие весь мир. Но не стоит думать, что финансовый кризис и мания спекуляции — главные темы книги. На её страницах автор отслеживает эволюцию кредитов, долгов, идею управления риском в течение нескольких веков. Не обходит он вниманием и мощные связи политики и экономики. Фергюсон доходчиво объясняет, как деньги прошли путь от монетной системы до бумажной, раскрывает преимущества и недостатки золотого стандарта.

> *Издания Фергюсона умеют удивлять. Они становятся в какой-то степени и научным откровением, и анализом финансовых и оперативных возможностей как одного человека, так и мировых экономических гигантов.*

Некоторым может показаться, что в книге слишком много субъективных вставок. На самом деле автор пытается рассказать нам как можно больше любопытных фактов из экономической истории мира.

Прочитав книгу «Восхождение денег», вы поймёте, почему больше всего страховок выкупает население самых безопасных для проживания стран. Также вам откроются обстоятельства возникновения причудливой страсти англоязычных народов к купле и продаже недвижимости. А может, вы увидите, как финансовая глобализация существенно поколебала традиционное разделение на развитые и развивающиеся страны.

**Юлия ШАБЛОВСКАЯ**

# Смерть с привкусом моря



Такарабунэ — птица? Такарабунэ — ветер? Такарабунэ — тёплое течение? Или наоборот — холодное? Увидев её первый раз, юный скаут Пашка онемел от восторга: красавица-яхта с экзотическим названием «Такарабунэ» стояла в заброшенном эллинге. Несмотря на близость Мартышкина к воде, его уроженец Павел Кирста-Косырев был абсолютно сухопутным человеком. Стада катеров, лодок, шлюпок и прочих плавсредств, мирно пасущиеся в Заливе, оставляли его равнодушным. Так же, как и залётные паруса залётных регат. Но эта яхта… В ней было что-то, что заставило Пашкино сердце учащённо забиться: мёртвый человек сидел у подножия мачты и смотрел на Пашку широко открытыми глазами. Это был Нео из его любимого фильма. Единственное, что отличало киношного Нео от настоящего, — дырка во лбу…

Детектив **«Победный ветер, ясный день» Виктории Платовой**, вышедший при поддержке ООО «Харвест», — увлекательный тандем закрученной интриги «женского детектива» и душевности женской прозы. Писательница давно имеет репутацию превосходного мастера слова с ярким и индивидуальным стилем. С середины 1990-х годов она пишет остросюжетные детективы, а на протяжении последнего десятилетия характеризует свой жанр как «психоделический или мистический детектив». Есть что-то в книгах Платовой от магического реализма, в который она окунает свой любимый тип героя — человека в пограничном состоянии.

Не стал исключением и «Победный ветер, ясный день». Книга начинается со знакомства с двумя мальчишками-друзьями, Пашкой и Виташей. Опьянённые скаутскими подвигами и разведывательными операциями великого «Би-Пи», они ищут настоящие приключения, а находят труп на борту яхты. Наблюдая за мальчишками, невозможно не вспомнить себя в детстве, готового взобраться на любое дерево и перемахнуть через соседский забор.

Но мёртвый человек, сидящий у подножия мачты и смотрящий на тебя мёртвыми, широко открытыми глазами... Впервые Пашка видит смерть так близко. Но не кричит, не падает на четвереньки и даже не чувствует рвотных позывов, в отличие от Виташи.

Подозревал ли известный балетмейстер Роман Валевский, выходя из своего автомобиля в ларёк около метро, что гибель ждёт его, забывшего на секунду своё прошлое? Могла ли Елена Шалимова представить, что гастроли их зашоренного самодеятельного театра «Глобус» закончатся на провинциальном кладбище похоронами Афины Парфенос, с которой не хватило времени подружиться по-настоящему?

Несмотря на ожидаемую суровость криминального сюжета, на мистичность убийства, крутой нрав милиционера Антохи-Бычье Сердце, призванием которого было «мочить гадов», книгу Платовой никак не получается охарактеризовать с мрачной стороны. Исключительная тонкость в нюансах повествования и талант подмечать особенности каждого человека отличают «Победный ветер, ясный день» от стандартного детектива. Под обложкой, кстати, очень привлекательной, собраны потрясающие образы и типажи: утончённая и хрупкая, но в то же время коварная танцовщица-карьеристка, молодой участковый — преданный поклонник Эдиты Пьехи, спившийся режиссёр, влюблённый школьник, безнадёжный сельский пропойца-подкаблучник. Интригующие лабиринты человеческих отношений и взаимосвязей, дерзкие решения в патовых ситуациях и тайна смерти, доверенная мальчишке одиннадцати лет и девушке, глаза которой меняют цвет от любви, — книга Платовой увлекает и затягивает до последней строчки.

Если вы поклонник интеллектуальной охоты на преступника, любите думать и в то же время отдыхать за чтением приятной книги с живым юмором — детектив Виктории Платовой для вас. Писательница, которую коллеги сравнивают с Себастьяном Жапризо и Агатой Кристи, не оставит равнодушным.

**Юлия ШАБЛОВСКАЯ**



# …І мільён пунсовых ружаў

Сорак гадоў творчай дзейнасці беларускі мастак Мікола Таранда адзначыў персанальнымі выстаўкамі ў Оршы і Віцебску. Невыпадкова былі выбраны карцінныя галерэі менавіта ў гэтых гарадах: у Віцебскім педагагічным інстытуце творца атрымаў навыкі малюнка і жывапісу ў знакамітых педагогаў А. Арлова, Ф. Гумена, Я. Ральцэвіча, пазней адшліфоўваў і ўдасканальваў тэхніку графікі ў народнага мастака Беларусі Г. Паплаўскага. Улюбёны ў сваю справу, ён імкнуўся больш глыбока вывучаць тэхніку жывапісу — паездкі ў Маскву, Ленінград, Феадосію напаўнялі яго творы новымі фарбамі.

Імя Міколы Таранды добра знаёмае кожнаму на Аршаншчыне, дзе ён жыве і працуе больш як сорак гадоў. Дзяцінства яго прайшло ў вялікай сялянскай сям'і на Брэстчыне ў вёсцы Падлессе. Бацькі — Іван Максімавіч і Фядора Кліменцьеўна — мелі ажно чатырнаццаць дзяцей. Мікола быў трынаццатым, рана пачаў дапамагаць па гаспадарцы, таму жылка працавітасці закладзена ў ім з маленства. Яшчэ ў студэнцкія гады Мікола актыўна ўдзельнічаў у мастацкіх выстаўках. У літаграфіях, афортах, лінагравюрах малады мастак адлюстроўваў свой горад, яго ваколіцы, багатую лясамі зямлю Аршаншчыны: «Восеньскія матывы», «Мелодыі лесу», «Вячэрні захад», «Лета», «Орша» — усё гэта сведчыла пра выдатнае валоданне ўсімі таямніцамі графічнага малюнка і кампазіцыі.

Пасля заканчэння інстытута Мікалай Іванавіч уладкаваўся на працу на радыётэхнічны завод горада Барань, а ў вольны час пісаў карціны і ажыццяўляў праекты па ўпрыгожванні горадка на беразе ракі Адроўка. Яго ініцыятыву падтрымліваюць кіраўнікі завода, гарадскія ўлады, і ў хуткім часе на заводзе адкрываецца музей, у зале якога пачынаюць наладжвацца мастацкія выстаўкі. Да Дня Перамогі над нямецка-фашыцкімі захопнікамі Мікола Таранда здзяйсняе ўласны праект: у цэнтры горада паўстае мемарыяльны комплекс воінам-землякам, якія загінулі ў Другой сусветнай вайне.

Поўны энергіі і дабрыні, творца задумвае зрабіць у сваім доме мастацкую студыю. «Мастацкая школа для дзяцей захавалася на Беларусі (у адрозненне ад еўрапейскіх краін). Няхай нашы дзеці развіваюць свае здольнасці не толькі ў буйных гарадах, але і ў невялічкіх населеных пунктах», — мяркуе Мікалай Іванавіч. І сёння яго студыя — гэта ўжо філіял мастацкай школы.

Мастак становіцца выкладчыкам. Дачка Алена, выпускніца мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, і цяпер працуе ў школы. Мікола Таранда дапамагае юным мастакам фінансава — набывае пэндзлі, фарбы, паперу, кардон, палатно, алей, дае грошы на пленэры. За ўвесь гэты час майстар падрыхтаваў для далейшага навучання шмат таленавітых дзяцей з Барані. Многія скончылі вышэйшыя навучальныя ўстановы Мінска, Санкт-Пецярбурга, Масквы, Кіева, Кішынёва, Львова і г. д. Яны з удзячнасцю ўспамінаюць свайго першага настаўніка, падзяляюць яго бачанне шчасця ў жывапісе і працы.

Мікола Іванавіч працягвае працаваць творча і не забывае словы свайго настаўніка Фелікса Гумена: «Мастак павінен пастаянна эксперыментаваць…» І Таранда эксперыментуе… ў жывапісе, дзе больш каларыстычных магчымасцей, дынамікі і колеравай экспрэсіі, дзе можна паўней самавыявіцца. Сведчаннем таму з'яўляюцца карціны «Крыгаход» — замёрзлая рака, дрэвы ў зімняй спячцы; кудлатыя аблокі, празрыстыя паўтоны, наслойваючыся, ствараюць музыку нябёсаў. Мастака вабяць белы месяц у вячэрнім небе, усепаглынальная ліловасць возера — «Цёплы вечар»; пакінутыя вёскі — «Там, дзе клён шуміць», «Аддаленыя вёскі», «Раніца ў Грушаўцы»; дрэвы, узгоркі, хаткі, блакітны колер — «Абуджэнне», «Імгненне лета», «Вясна прыйшла», «Апошні прамень», «Вечны кліч» і інш.

У спрыяльнае надвор'е мастак заўсёды на пленэры. Выходзіць у лес, поле, наталяецца водарам зямлі. Гэта надае яму энергіі гадзінамі не адыходзіць ад мальберта і з задавальненнем перадаваць асалоду ад хараства прыроды ў сваіх карцінах.

Асобная тэма ў творчасці мастака — культавая архітэктура: «Асенні дзень», «Сведкі гісторыі» з серыі «Полацк». Пасля паездкі ў Суздаль Мікола Таранда прывёз серыю жывапісных пейзажаў з белакаменнымі храмамі і паўразбуранымі цэрквамі. Пяціглавыя, крыжова-купальныя белаcценныя храмы, атачоныя двух'яруснымі галерэямі, сёння шмат пра што могуць распавесці. «Ільінская царква» — спакой, цішыня, запаволены рух аблокаў над ракой і халодным берагам з сілуэтам белакаменнай царквы; карціна з серыі «Вязьма» — «Праз стагоддзі», а таксама «Троіцкі сабор», «Ільінка», «Багародзіцкая царква». Таранда піша помнікі старажытнарускай архітэктуры не толькі з вялікай любоўю і зачараваннем, але і з сапраўдным захапленнем: імкнецца абудзіць у душы свайго гледача творчую іскрынку, пачуццё прыгожага, каб той прыпыніў крок і задумаўся.

Зусім іншая экспрэсія, натхнёная шчырай любоўю да Бацькаўшчыны, імгненнямі замілавання, светлым роздумам пра суайчыннікаў, стрыманым болем трагічных эпізодаў беларускай гісторыі, адчуваецца ў карціне «Кветкі Беларусі», дзе вобраз Айчыны паказаны нібы ў двух вымярэннях: як аршанская зямля і як планета людзей. На палатне «Вечар» дэкаратыўнае спалучэнне халодных тонаў з ярка-жоўтай плямай у цэнтры дае фантастычную дрыготкую паверхню, якая прыцягвае да сябе позірк гледача.

Мікола Таранда лічыць працаздольнасць важнай рысаю для мастака і прызнаецца, што часам займаецца па дзесяць-дванаццаць гадзін на суткі. І сёння майстар у творчым пошуку, знаходзіць усё новыя магчымасці для перадачы зменлівага стану прыроды, сваіх эмоцый. Па-ранейшаму вобразы, народжаныя мастаком у працэсе максімальнага сутыкнення першых уражанняў ад натуры, пераўвасабляюцца ў класічныя ўзоры мастацтва, прасякнутыя тонкім лірызмам: «Цёплая восень», «Азёрны край», «Дзень дагарае», «Вясенні дождж», «Зімняя дарога», «Вясенні вечар», «Сярэбраны туман».

Мікола Таранда смела ўводзіць у свае краявіды яркія колеры, што найбольш выразна перадаюць яго адчуванне чароўнай непаўторнасці прыроды. У некаторых пейзажных палотнах ён імкнецца стварыць адзіную колеравую масу, дзе рэчы растаюць у прасторы: «Вясна прыйшла», «Апошні прамень». Уся яго творчасць, талент, працаздольнасць і адчуванне свайго месца на зямлі з'ўляюцца цудоўным адлюстраваннем нацыянальнага духу, асаблівa ў пейзажах, дзе Мікола Таранда дэманструе сваё жывапіснае майстэрства. Шлях да праўды ў мастацтве ляжыць праз шчырасць. Шчырасць мастака — лепшыя лекі ад штампаў.

Кветкі — любімая тэма ў творчасці Мікалая Іванавіча і па сёння. Любімыя ружы мастака — чырвоныя, глядзіць на іх, любуецца і ажно душа спявае. Расказаць пра свой стан у гэты час творца не можа, ён нібыта ўпітвае прыгажосць кветак, а потым гэтыя адчуванні адлюстроўвае на палатне. Як прызнаецца Мікола Таранда: «У кветкі закохваюся часцей, чым у жанчын». Некалі марыў, каб вакол яго дома раслі і квітнелі адны ружы, як у песні «Мільён, мільён пунсовых руж…». Сёння гэтая мара здзейснілася.

Нацюрморты мастака адметныя своеасаблівай пластычнасцю форм і трапна знойдзенай колеравай рытмікай. У іх адчуваецца вялікая ўнутраная моц. З кожным годам мастак дасягае ўсё новых вяршынь у жанры нацюрморта: «Жасмін», «Астры», «Калы», «Цюльпаны», «Ружы ў майстэрні», «Ружы», «Вясна прыйшла», «Півоніі», «Кветкі палісаднікаў», «Сланечнікі», «Вясенні букет», «Кветкі і фрукты»...

Кажуць, сапраўднаму мужчыне трэба стаць бацькам, пабудаваць дом, пасадзіць дрэва. Мікола Таранда зрабіў усё: у яго трохпавярховым доме ёсць майстэрня, невялічкая галерэя, дзе змешчаны палотны, напісаныя ў час падарожжаў па Балгарыі, Славеніі. Яны напоўнены асаблівай цеплынёй паўднёвага сонца, марскім паветрам, сакавітай садавіной. Глядзіш на карціну «Аранжавая спякота» — і адчуваеш святочны настрой і аптымістычны погляд на свет. Згадваюцца словы французскага жывапісца Эжэна Дэлакруа: «Карціна павінна быць святам для вачэй».

**Галіна ФАТЫХАВА**

# Парыў душы — яшчэ не музыка

Пра ўраджэнца Мінска Віктара Смольскага складана распавесці ў некалькіх сказах. Гітарыст з сусветным іменем, удзельнік вядомага нямецкага гурта *Rage*, аўтар многіх сольных праектаў… Віктар часта праводзіць майстар-класы для музыкаў, дапамагае маладым талентам (у тым ліку і з Беларусі) пачаць кар'еру на сцэне, арганізаваць гастролі ў розных краінах. На працягу ўжо многіх гадоў музыка жыве ў Германіі, а ў родным горадзе ён чаканы, але вельмі рэдкі госць. Думаецца, нам пашанцавала, бо не так даўно Віктар Смольскі завітаў у беларускую сталіцу.

Тут ён правёў майстар-клас для маладых гітарыстаў у рок-школе *Discovery*, а разам з гуртом *Attraction* адыграў канцэрт у клубе *Coyote*. Як прызнаўся падчас выступлення сам Віктар, гэта быў не проста канцэрт, а сапраўдная сустрэча сяброў. Наш карэспандэнт таксама завітала ў клуб, а пасля пагутарыла з Віктарам Смольскім.

**— Вы выступаеце ўжо шмат год — у складзе гурта Rage, сольна. Ці змянілася за гэты час публіка, якая прыходзіць на вашы канцэрты?**

— У прынцыпе, публіка асабліва не змяняецца. Нехта старэе, але выдатна, што ідзе «падмацаванне» шэрагаў нашых прыхільнікаў з ліку моладзі. І ў гурта *Rage*, і ў мяне публіка рознаўзроставая, як кажуць, ад малога — да старога. Гэта вельмі радуе. Дай Бог, каб і надалей так было.

**— Што важней для музыканта: граць у адным стылі ці эксперыментаваць, спрабаваць сябе ў новай ролі?**

— Самае галоўнае для музыкі — граць тое, што хочацца і што падабаецца. Таму, калі камусьці падабаецца і хочацца граць увесь час адно і тое ж, — калі ласка. Калі хочацца развівацца і спрабаваць нешта цікавае — выдатна. У прынцыпе, я гэта і раблю. Мне падабаецца ўвесь час эксперыментаваць, таму і ладжу сольныя праекты, спрабуем граць і з аркестрам, з рознымі вакалістамі. Вельмі падабаецца спалучэнне розных стыляў!

**— Як выглядае музычны рынак Беларусі, калі яго спрабаваць ацэньваць з Германіі?**

— На жаль, пра Беларусь там нічога не чую. Калі наведваюся ў Мінск, то сябры і знаёмыя мне дораць шмат розных дыскаў, я размаўляю і шмат сустракаюся з музыкамі. Але прыязджаю вельмі рэдка, толькі на некалькі дзён, і яны распісаныя літаральна па хвілінах. Таму мала часу застаецца на зносіны з музыкамі. Я спрабую тут правесці адпачынак, пахадзіць па месцах, дзе граюць маладыя людзі, але, на жаль, пакуль не хапае вольнага часу, і планы не спраўджваюцца.

**— Рок-школа *Discovery* ў нас пазіцыянуецца як элітная. А наколькі рок можа быць элітнай музыкай? Ці важна мець новыя дарагія інструменты, каб быць паспяховым рок-музыкам?**

— Інструменты не абавязкова павінны быць новенькія і дарагія, яны павінны быць добрыя. Галоўнае — знайсці правільны інструмент, зручны, які падыходзіць пад руку, добра гучыць. А цана — зусім іншая тэма. *Discovery* — нармальная музычная школа, дзе прапагандуецца прагрэс у музыцы, уласнае развіццё музыкаў. Дзякуй Богу, што такая школа з'явілася ў Беларусі, раней я пра такія ўстановы не чуў. Тут пастаянна арганізоўваюць майстар-класы, запрашаюць розных музыкаў, па-мойму, усё атрымліваецца ўдала.

**— Ці можна навучыць граць рок?**

— Канечне, можна, таксама, як можна навучыць граць музыку розных іншых стыляў.


Фота з інтэрнэт-сайта darkside.ru

**— А як жа душэўны парыў, асаблівая энергія, неабходныя менавіта на рок-сцэне?**

— Душэўны парыў — гэта яшчэ не музыка. Для музыкі патрэбна і майстэрства, каб з галавы ідэю перакласці праз пальцы на гітару. А для гэтага неабходна тэхніка, веданне таго, як усё робіцца. Таму парыў душы, напэўна, важней у каханні, а ў музыцы ўсё ж значны прафесіяналізм, а значыць, патрэбна вучыцца.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі

Бібліятэчны сшытак

6 верасня 2013 г.

# Еўрапейская асацыяцыя — у Мінску

**Нацыянальная бібліятэка Беларусі стала месцам правядзення 42-й Міжнароднай канферэнцыі ABDOS «На шляху да новага самапазнання — бібліятэкі як культурны і сацыяльны цэнтр».**

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

Абрэвіятура ABDOS расшыфроўваецца як Асацыяцыя бібліятэк і інфармацыйных цэнтраў па даследаванні Усходняй, Сярэдне-Усходняй і Паўднёва-Усходняй Еўропы. Штогод з 1972-га арганізацыя, якая аб'ядноўвае найважнейшыя ўстановы ў нямецкамоўнай прасторы, ладзіць канферэнцыі ў розных кутках Еўропы. Каб стварыць для чытачоў уяўленне пра тэматыку яе працы, прывяду два прыклады. 35-я канферэнцыя адбылася ў 2006 годзе ў нямецкім горадзе Баутцэне. Яе назва — «Маленькія рачулкі ў вялікай рацэ — «малыя» мовы і літаратуры ды роля бібліятэк і інфармацыйных цэнтраў у іх вывучэнні і даследаванні». А ў наступным 2007-м навукоўцы сабраліся ў Вене, каб падыскутаваць на тэму «Фактар стабільнасці для Паўднёва-Усходняй Еўропы ў эпоху інфарматызацыі». Апошнім часам паўстала традыцыя: сустрэчы па цотных гадах адбываюцца ў адным з населеных пунктаў Германіі, па няцотных — у адным з гарадоў Усходняй Еўропы. Сёлета ім быў абраны Мінск.



Фота Кастуся Дробава

Раман Матульскі (справа) вітае ўдзельнікаў канферэнцыі.



Фота Кастуся Дробава

У кулуарах канферэнцыі.

***

На адкрыцці канферэнцыі з прывітальным словам выступіў Раман Матульскі. Тэма яго даклада («Віртуальная рэканструкцыя помнікаў кніжнай культуры Беларусі») неаднаразова асвятлялася на «лімаўскіх» старонках. Гаворка на форуме ішла пра плённую дзейнасць Нацыянальнай бібліятэкі па набыцці рэдкіх і каштоўных выданняў (150 за мінулы год), атрыманні іх у часовае экспанаванне («Біблія» Скарыны), факсімільным выданні помнікаў літаратуры, стварэнні электронных энцыклапедый і г. д.

Але прамова Рамана Сцяпанавіча была арыентавана не толькі на суайчыннікаў, але і на замежнікаў, таму мела дадатковыя адценні і нюансы. Напрыклад, паводле слоў Матульскага, будынак НББ уваходзіць ва ўсе магчымыя ТОПы бібліятэк: як самых прыгожых, так і брыдкіх. Асаблівасць галоўнай кніжніцы краіны ў тым, што яна з'яўляецца як сучаснай бібліятэкай, так і інфармацыйным цэнтрам, дзе праходзяць афіцыйныя і дзелавыя сустрэчы. Гэта дазваляе НББ мець высокі статус у грамадстве.

Кажучы пра выклікі, якія ўзнікаюць перад усёй бібліятэчнай супольнасцю з надыходам інфармацыйнага грамадства, Р. Матульскі прывёў два прыклады. Будынак Свабоднага ўніверсітэта ў Берліне адкрыты ледзь не 24 гадзіны ў суткі і запоўнены чытачамі. У Сінгапуры за апошнія 10 гадоў наведванне бібліятэк павялічылася ў 3,5 разы. Атрымліваецца, што бібліятэка можа быць запатрабаванай у сучасным свеце. Але пры ўмове яе пераарыентацыі на сучасныя патрэбы.

***

Алена Раско з гановерскай Тэхнічнай інфармацыйнай бібліятэкі прадставіла ўдзельнікам сваю ўстанову, якая з'яўляецца адной з самых буйных у свеце кніжніц, дзе захоўваецца літаратура па тэхніцы, фізіцы, матэматыцы, інфарматыцы і архітэктуры. Яе бюджэт у 2012 годзе склаў 27 мільёнаў еўра, прычым амаль два мільёны еўра зарабіла сама бібліятэка. Адна з платных паслуг — дастаўка дакументаў. Цікава, што 68% з іх замаўляюцца з Германіі, 27% — з іншых краін Еўропы, 5% — карыстальнікі з астатняга свету. З 1959 года ў бібліятэцы працуе аддзел Усходняй Еўропы, які папаўняецца адпаведнай літаратурай. У Беларусі немцы замаўляюць не толькі навуковыя выданні, а таксама зборнікі канферэнцый і часопісы. Цікавасць да апошніх невыпадковая. Дастаткова сказаць, што чытачы бібліятэкі маюць доступ да 27 тысяч часопісаў (прычым 14 тысяч з іх — у электронным выглядзе).

***

Людміла Гушчынская, загадчык сектара інфармацыйна-аналітычнага аддзела НББ, распавяла пра персанальныя віртуальныя праекты бібліятэкі. Яна нагадала, што спярша інфармацыя змяшчалася на здымных носьбітах: гаворка пра дыскі, прысвечаныя Францішку Багушэвічу, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу і Максіму Багдановічу. Іх структура была падобнай: тэксты, фрагменты фільмаў, створаных на іх аснове, аўтографы... Выхадам на новы ўзровень стаў віртуальны праект, прысвечаны Янку Купалу і Якубу Коласу (выкладзены на партале НББ). Ён складаўся з наступных раздзелаў: уступны літаратуразнаўчы артыкул, летапіс жыцця і творчасці класікаў, іх крылатыя словы і афарызмы, песні на іх словы, ілюстрацыі да твораў і ўласна творы Купалы і Коласа, размешчаныя паводле рубрык (пра каханне, для дзяцей, пра вайну і інш.). А вось для праекта, прысвечанага Янку Маўру, была выбрана форма падарожжаў пісьменніка ў краіны і рэгіёны свету, адлюстраваныя ў яго творах. Гэта Папуа — Новая Гвінея, Вогненная Зямля, востраў Ява і Палессе.

***

Олаф Хаман, супрацоўнік Берлінскай дзяржаўнай бібліятэкі, распавёў пра гісторыю і сучасны стан сваёй установы. Заснаваная ў 1661 годзе як кніжніца курфюстаў (пазней каралей), цяпер яна налічвае 11 мільёнаў кніг і брашур і каля мільёна геаграфічных карт з усяго свету. О. Хаман вылучыў дзве асаблівасці нямецкіх бібліятэк. Па-першае, адказнасць за іх камплектаванне ўскладаецца на федэральныя землі. Па-другое, кніжніцы спецыялізуюцца на літаратуры розных напрамкаў. Напрыклад, Берлінская бібліятэка — на славістыцы, праве, усходазнаўстве. З 2005 года там ствараецца віртуальная галіновая бібліятэка-партал па славістыцы. Дарэчы, у берлінскіх фондах прадстаўлены і беларускія выданні. Праўда, сёлета набытак склаў усяго каля сямі дзясяткаў асобнікаў. Кнігі паступаюць па міжбібліятэчным абмене, пры дапамозе ўласных пошукаў, а таксама пры спрыянні пасольства Беларусі ў Германіі, якое аплочвае транспарціроўку. Дарэчы, у Берлінскай бібліятэцы ёсць цікавая паслуга: можна падпісацца на рассылку, і тады карыстальніку будзе прыходзіць спіс новых паступленняў.

***

Далей праца форуму адбывалася па некалькіх сесіях: «Развіццё беларускай тэматыкі ўнутры краіны і ў свеце», «Каталагізацыя», «Бібліятэкі і праца бібліятэкараў як выяўленнне гістарычнай ідэнтычнасці», «Кніга, бібліятэкі і гісторыя кнігадрукавання». Дарэчы, наступная 43-я канферэнцыя ABDOS пройдзе ў Гановеры. Мяркуючы па ўзроўні мінскага форуму, беларускія навукоўцы праз год змогуць годна прадставіць нашу краіну ў Германіі.

## Што? Дзе? Калі?

15 верасня адзначаецца Дзень бібліятэк Беларусі. Сёлета па ініцыятыве Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі ўпершыню праводзіцца абласная акцыя «Ноч у бібліятэцы», прызначаная на 13 верасня. Наведаўшы гомельскую кніжніцу з 20.00 да 23.00, чытачы патрапяць на «Ноч майстроў», прысвечаную раману Міхаіла Булгакава «Майстар і Маргарыта». Распачне праграму тэатралізаваны пралог: гасцей будуць сустракаць Майстар і Маргарыта, а таксама Воланд з яго світай. Фотасалон "У Воланда» запрашае сфатаграфавацца з героямі рамана Булгакава ў музеі рэдкай кнігі. У фае першага паверха будзе разгорнута выстаўка катоў «Кот Бегемот і суродзічы». У фае трэцяга паверха новага корпуса бібліятэкі — жаночы салон. «Нядобрая кватэра № 50» для падлеткаў — на цокальным паверсе бібліятэкі. «Дом Грыбаедава» запрашае на сустрэчу з гомельскімі літаратарамі і музыкантамі. Таксама абудзецца адкрыццё персанальнай выстаўкі Сяргея Бохана, баль у Воланда з удзелам студыі тэатра і танца «Livenь» і інш. Скончыцца Ноч Майстроў выбарам новай Маргарыты.

Культурна-асветніцкая выстаўка «Марцін Лютэр: 530 гадоў з дня нараджэння» адкрыта ў мабільнай галерэі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Яна падрыхтавана НББ сумесна з грамадскім аб'яднаннем нямецкай культуры «Масты» і прысвечана 530-годдзю «вялікага рэфарматара» Германіі Марціна Лютэра.

У гісторыю нямецкай грамадскай думкі Марцін Лютэр увайшоў і як дзеяч культуры — рэфарматар адукацыі, мовы, музыкі. У экспазіцыі прадстаўлены ілюстрацыйныя і інфармацыйныя матэрыялы. На плакатах можна ўбачыць партрэты Марціна Лютэра і яго жонкі, карціны і гравюры з выявай нямецкага рэфарматара, фотаздымкі месцаў, дзе нарадзіўся і працаваў у розныя часы багаслоў. Зацікавяць наведвальнікаў і здымкі тытульных лістоў выданняў, створаных Марцінам Лютэрам, а таксама ўрыўкі з лістоў і змест яго легендарных 95 тэзісаў супраць індульгенцый.

На ўрачыстым адкрыцці з прывітальнымі словамі выступілі першы намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алена Далгаполава, намеснік кіраўніка місіі Пасольства Федэратыўнай Рэспублікі Германіі ў Рэспубліцы Беларусь Хольгер Рапіар, намеснік упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ламека, дырэктар Рэспубліканскага цэнтра нацыянальных культур Міхаіл Рыбакоў, старшыня грамадскага аб'яднання нямецкай культуры «Масты» Вольга Штокман, біскуп Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў у Рэспубліцы Беларусь Аляксандр Фірысюк. Ганаровыя госці ў сваіх выступленнях адзначылі важкасць асобы Марціна Лютэра ў гісторыі Еўропы, а таксама падкрэслілі ўнёсак пратэстанцкіх плыняў у развіццё культуры Беларусі.

Гродзенская абласная навуковая бібліятэка імя Я. Ф. Карскага распачала рэалізацыю праекта «Што чытаюць гарадзенцы». У аддзеле абанемента дзейнічае выстаўка кніг, якія найбольш зацікавілі паважаных чытачоў бібліятэкі. Ганаровы грамадзянін Гродна памежнік Рыгор Абялеўскі параіў звярнуць увагу на выданне «Пяць стагоддзяў Гродзенскай мытнай службы», начальнік упраўлення культуры Гродзенскага аблвыканкама Аляксандр Вярсоцкі рэкамендуе «Я — сын Ваш» Анатоля Статкевіча-Чабаганава, прафесары Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы Святлана Куль-Сільвестрава і Святлана Марозава — адпаведна «Хрыстос прызямліўся ў Гародні» Уладзіміра Караткевіча і «Беларускія летапісы і хронікі» (апошнія выходзілі ў серыі «Беларускі кнігазбор»). Галоўны рэжысёр Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Генадзь Мушперт звярнуў увагу на «Аповесці. Апавяданні» Станіслава Гаварухіна, а актрыса Гродзенскага тэатра лялек Аляксандра Літвінёнак — на «Выбранае» Іосіфа Бродскага.

Даніла АРЦІМОВІЧ

# Брама для спасціжэння сябе і свету

Падчас XV Міжнароднага з'езда славістаў Чэшская нацыянальная бібліятэка перадала Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і дэлегатам з'езда кнігі, што даюць уяўленне пра выдавецкую і бібліяфільскую дзейнасць установы. Прадстаўляем чытачам выданні, а таксама знаёмім з асобамі рэдактараў.

## ПАДАРУНКІ З ПРАГІ

Якія ж кнігі трапілі на захоўванне ў Мінск? Гэта выданне «Справа жыцця аднаго пісара» з публікацыямі, што падрабязна апісваюць узнікненне і далейшы лёс CodexGigas, самай вялікай рукапіснай кнігі Сярэднявечча першай паловы XIII стагоддзя; інкунабула 1476 года, звязаная з дзейнасцю Скарыны; англійскі пераклад чэшскай граматыкі Вацлава Росы 1672 года, першай славянскай лінгвістычнай працы, якая і па сённяшні не страціла сваёй актуальнасці. Выхад яшчэ аднаго выдання — зборніка «Чэшскае ўсведамленне Беларусі» на чэшскай і беларускай мовах, які з'явіўся дзякуючы выдавецтву «Каралінум» Карлавага ўніверсітэта, прымеркаваны спецыяльна да з'езда. Пад вокладкай з постаццю Скарыны — больш як 30 аўтараў, у чыіх артыкулах аналізуецца 600-гадовая традыцыя ўзаемасувязяў нашых краін. З укладальнікамі кнігі і яе рэдактарамі, удзельнікамі з'езда, прафесарам Іржы Марванам і доктарам Верай Лэндзелавай, атрымалася пагутарыць у нефармальнай абстаноўцы дзякуючы Чэшскаму пасольству і Часоваму павераному спадарыні Дагмар Дзідэнка-Наваградскай.

## УЗНАГАРОДА ЗА ДОБРЫЯ АДЗНАКІ

Вера Лэндзелава выкладае ў Інстытуце ўсходнееўрапейскіх даследаванняў філасофскага факультэта Карлавага ўніверсітэта мовазнаўчыя дысцыпліны на спецыяльнасцях «русістыка» і «ўкраіністыка». Даследуе сучасную ўсходнеславянскую літаратуру, цікавіцца літаратурным жыццём у шырокіх сувязях і кантактах.

Спадарыня Вера Лэндзелава жартуе: «Калі ў маёй пражскай двухпакаёвай кватэры з'явіцца яшчэ некалькі кніг, нам не будзе дзе спаць — застанецца маленькі праход». А прага да кнігі, стаўленне да яе як да цуду — з дзяцінства. «Нас было сямёра, але першая дзяўчынка памерла. Бацькі родам з Трансільваніі, прыехалі ў Заходнюю Чэхію ў 1947 годзе. Немцаў адтуль пасля вайны выселілі, патрэбны былі працоўныя рукі, таму жадаючым пераехаць абяцалі залатыя горы. Бацькі расказвалі: першыя часы было нават небяспечна — выселеныя (а да мяжы з Германіяй было ўсяго сем кіламетраў) вярталіся начамі па свае рэчы. Да таго ж, дом быў разбіты. Два гады пасля вайны — без вокан, сапсаваная падлога…

Былі ў нас толькі малітоўнікі, псалтыры, Біблія — пра ўласную дзіцячую кнігу заставалася марыць. Трэба было парадкаваць жытло. Калі пайшлі ў школу, сталі атрымліваць кнігі ў якасці ўзнагароды за поспехі ў вучобе. Так стала папаўняцца хатняя бібліятэка. Тата не скончыў школу — ён родам з горнай мясцовасці, у юнацкія гады ўдзельнічаў у вайне. Венгрыя, Румынія… Зямля пераходзіла то ў адны, то ў другія рукі. У Чэхію прыехаў у дваццацігадовым узросце. І ўжо было не да вучобы. Мама вельмі добра спявала, навучыла і нас. А я палюбіла кнігу ў раннім узросце — настолькі, што фаліянты, узятыя са школьнай бібліятэкі, чытала па начах пры свечцы (на другі паверх нашага вялікага дома, дзе былі дзіцячыя спальні, святло правялі не адразу). Скончыўшы пачатковую, перайшла ў сярэднюю школу ў райцэнтры. Зранку мама будзіць на ўрокі, а я чытала ўсю ноч — прашу: «Яшчэ пяць хвілінач». А трэба было паспець на аўтобус, што ідзе ў райцэнтр...

## МОВА — НАША ЖЫЦЦЁВАЯ МОЦ

Іржы Марван — славіст, балтыст, еўрапеіст. Працаваў ва ўніверсітэтах Швецыі, ЗША, Аўстраліі, Чэхіі (выкладае і сёння), быў паслом Чэхіі ў Грэцыі (1993 — 1997). Шмат увагі надае ў сваіх працах беларускай мове.

Прафесар Іржы Марван прызнаўся: «Я размаўляю на ўсіх мовах суседніх з Чэхіяй краін, яшчэ і палітоўску. Але дэтэктыў, які чытаю перад сном, каб адпачыць, будзе на роднай. А першы штуршок да прафесійнага выбару адчуў падчас вайны. Мы былі акружаныя немцамі, і ў гэтых абставінах родная кніга шмат значыла! Сваю першую кнігу я напісаў у дзесяць гадоў. Вайна скончылася, вакол гучалі ўсе славянскія мовы, і я пісаў пра тое, што людзі павінны разумець адзін аднаго. Сёння гэта называецца лінгваэкалогія».

Пакрысе размова пераходзіць да праблемы, якая хвалюе ўсіх: змяншэнне аўдыторыі чытачоў: «Пакуль стан спраў яшчэ цярпімы, бо частка моладзі вельмі шануе кнігу. Што трэба рабіць далей? Тут калегі са мной спрачаюцца. Дзякуючы інтэрнэту ў нас больш пісьменнікаў, чым чытачоў. Асабіста я лічу вельмі важным тое, як выглядае кніга. Таму першы крок — прыгожае афармленне. Другі — пісаць, каб цікава было маладым. Не трэба саромецца ілюстраваць сур'ёзныя думкі дасціпнымі жартамі. Намагаюся, каб было шмат моўных жартаў, якія нельга перакласці. І гэтым паказваю, што мова — нацыянальная каштоўнасць, таму так важна яе захаваць. У беларускай мове таксама ёсць разынкі, не менш, чым у іншых еўрапейскіх мовах».

Спадар прафесар згадвае выказванне суайчынніка Карла Чапека пра тое, што самае цікавае падарожжа — чытаць слоўнік роднай мовы. «Ахвотна чытаю, маю нават слоўнік татарскай мовы». Адна з апошніх прац Іржы Марвана «Уводзіны еўрапейцаў у Еўропу праз іх мову», прысвечаная арэальнай лінгвістыцы, напісана па-англійску, яна нават мае карту, дзе пазначана, як называюць піва розныя народы. «Літоўцы — алюс, англічане — эль. Немцы — бір (гэта ад лацінскага біберас). А ў нас, славян, — тэрыторыя піва. Цяжка лінгвісту тлумачыць некаторыя рэчы нелінгвістам, але, спадзяюся, мне гэта ўдалося. Брама для спасціжэння сябе і свету праз мову адчыненая. Мова — наша жыццёвая моц».

**Максім БАРЫШНІКАЎ**

# На радзіму Расула Гамзатава

Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка імя У. І. Леніна стала адным з пераможцаў міжнароднага конкурсу, прысвечанага 90-годдзю Расула Гамзатава.

Дагестан… Для сучаснага чытача веды пра гэту краіну, на жаль, часцей за ўсё абмяжоўваюцца інфармацыяй крымінальнай хронікі. Але ж Дагестан — гэта яшчэ і край незвычайнай, унікальнай прыроды, імглістых гор, крыштальнага паветра і срэбных рачулак. Акрамя таго, ён слаўны такімі знакамітымі паэтамі, як Расул Гамзатаў, чыё 90-годдзе з дня нараджэння будзе 8 верасня адзначаць не толькі дагестанскі народ, але і ўсё чалавецтва.

При падтрымцы Фонду «Рускі свет» Хасавюртаўская цэнтральная гарадская бібліятэка паспяхова ажыццявіла міжнародны праект «Расул Гамзатаў — дабрыні і чалавечнасці», у якім узялі ўдзел 110 бібліятэк з 15 краін, а таксама з усіх федэральных акруг Расіі. Ад Беларусі ўдзельнічала Гомельская абласная бібліятэка, якая ўвайшла ў чацвёрку пераможцаў міжнароднага конкурсу бібліятэчных праектаў па папулярызацыі літаратурнай спадчыны Расула Гамзатава (у ліку пераможцаў таксама бібліятэкі Казахстана, Эстоніі і Расіі). Дарэчы, усяго ў розных імпрэзах у межах акцыі «Чытаем Расула Гамзатава» прынялі ўдзел больш як 50 тысяч чалавек.

Выдатны падарунак найбольш актыўным папулярызатарам творчасці Расула Гамзатава зрабіў Дабрачынны фонд садзейнічання развіццю культурных, адукацыйных і сацыяльных праектаў, які запрасіў напрыканцы жніўня бібліятэкараў з Абхазіі, Беларусі, Ізраіля, Казахстана, Кітая, Літвы, Украіны, Эстоніі і 6 федэральных акруг Расіі ў тыднёвы этнаграфічны тур па Дагестане.



*У музеі Гамзата Цадаса.*

Ганаровыя госці пачалі сваё знаёмства з памятнымі гамзатаўскімі месцамі ў Махачкале. Адбылася сустрэча з міністрам культуры Дагестана Зарэмай Бутаевай. Пасля журналісты мясцовай тэлекампаніі ўзялі інтэрв'ю ва ўдзельнікаў этнатура, кожны з якіх выказаў сваё меркаванне пра гэту маштабную акцыю ў славу паэзіі, выканаў вершы Расула Гамзатава на рускай мове і ў перакладзе — на мове той краіны, якую прадстаўляў. Мне выпаў гонар прачытаць вершы ў перакладзе паэта Анатоля Грачанікава з паэтычнага зборніка «Высокія зоркі».



*Выступае дачка Расула Гамзатава Саліхат Гамзатава, дырэктар дагестанскага музея выяўленчых мастацтваў.*

Не менш цікавай аказалася паездка ў аул Цада высакагорнага Хунзахскага раёна, дзе госці пабачылі мемарыяльны комплекс, прысвечаны народнаму паэту Дагестана Гамзату Цадасе і яго славутаму сыну Расулу, азнаёміліся з домам-музеем іх знакамітай сям'і.

Паводле арганізатараў, гэтай міжнароднай акцыяй яны імкнуліся ў чарговы раз прыцягнуць увагу прадстаўнікоў розных краін свету да Дагестана, апетага Расулам Гамзатавым, і паказаць, што яго паэтычная спадчына здольна паяднаць народы свету.

Этнатур даў магчымасць прадстаўнікам бібліятэк розных краін СНД і далёкага замежжа абмяняцца думкамі і напрацаваным досведам, абмеркаваць сучасныя праблемы, шляхі і метады іх вырашэння. Ёсць усе падставы верыць, што праект будзе мець развіццё.

***Алег АНАНЬЕЎ,***
**намеснік дырэктара па рэкламе і сувязям з грамадскасцю Гомельскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна**

# Бярэзінскі Прышвін

Сярод сельскіх бібліятэк Бярэзінскага раёна пачэснае месца займае Паплаўская бібліятэка аграгарадскога тыпу, якую ўзначальвае Валянціна Наскавец. У выніку краязнаўчых пошукаў установай было знойдзена багата матэрыялаў з гісторыі паплаўскіх вёсак і гаспадарак, саўгасаў, сельсавета зоны абслугоўвання Паплаўскай бібліятэкі. Падобную працу ўстанова распачала яшчэ ў 1990-я гады. Матэрыялы, афармленыя па тэмах, прадстаўлены на выстаўцы «Край, у якім ты жывеш». Асаблівую цікавасць у наведвальнікаў выклікае планшэт-візітоўка «Ён жыве сярод нас» пра вядомага земляка, пісьменніка Рыгора Ігнаценку.

Ён нарадзіўся 20 лістапада 1930 года ў вёсцы Вусаўка Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці. Калі Рыгору было чатыры гады, памёр бацька, а праз тры гады і маці. Так у сем гадоў хлопчык застаўся круглым сіратою. Яго дзяцінства прайшло ў дзіцячым доме «Камунары». Пісьменнік згадвае: «…Вакол стаяў лес, кожную раніцу нас будзілі птушыныя спевы, днём мы гулялі сярод такіх хвой, што трое чалавек не змаглі б іх абхапіць. Гэта асаблівыя дні ў маім жыцці…»

Калі пачалася вайна, выхаванцаў дзіцячага дома эвакуіравалі. Пасля доўгіх блуканняў Рыгор апынуўся ва Узбекістане, у горадзе Шафрыкане непадалёку ад Бухары, дзе перанёс тыф. Ён хварэў так цяжка, што потым зноў вучыўся хадзіць. Тут Рыгор згубіў сваю сястру Марыю. Іх размеркавалі па розных сем'ях, і ён не ведаў, хто яе ўдачарыў. Пазней лёс прывёў яго ў Паплавы, дзе Рыгор Ігнаценка жыве з 1956 года. Ён 34 гады адпрацаваў настаўнікам у мясцовай школе, завочна скончыў Усесаюзны ўніверсітэт мастацтваў у Маскве.

Маладога настаўніка прыцягвалі бярэзінскія лясы, рака Бярэзіна. Захапіўся паляваннем, рыбалкай, грыбнымі паходамі. Усё гэта дарыла цікавыя сустрэчы з паляўнічымі і рыбакамі, назіранні за прыродай. Нярэдка згадваўся дааенны дзіцячы дом, дзе яны, выхаванцы, амаль увесь час праводзілі на прыродзе, ведалі не тое што кожнае дрэва і птушыныя гняздо, здаецца, кожную травінку. Так і пачаў пісаць.

Першае апавяданне Рыгора Ігнаценкі было апублікавана ў 1956 годзе ў дзіцячай газеце «Зорька». Сёння Рыгор Канстанцінавіч — аўтар 10 кніг, член Саюза пісьменнікаў Беларусі. Яго лепшыя апавяданні ўключаны ў падручнікі для вучняў пачатковых класаў. У сваіх творах пісьменнік апявае родную зямлю, яе прыгажосць і таямніцы. Галоўная тэма — гармонія ва ўзаемаадносінах чалавека і прыроды. Жыхары Бярэзіншчыны з гонарам і любоўю называюць Р. Ігнаценку «бярэзінскім Прышвіным».

У 2012 годзе тэксты літаратурных замалёвак Р. Ігнаценкі, якія раней не друкаваліся, склалі першы бібліятэчны самвыдатаўскі зборнік «Зялёнае рэха». Ён уключае 17 апавяданняў і цікавыя фотаздымкі з хатняга архіва Р. Ігнаценкі.

А сёлета выйшаў другі самвыдатаўскі зборнік «Пад лясным шатамі». Выданне змяшчае 19 новых апавяданняў, кожнае з якіх гучыць узнёслым гімнам прыродзе, лесу і яго насельнікам. Адразу пасля выхаду прайшлі прэзентацыі кнігі ў Паплаўскай і іншых сельскіх бібліятэках.

**Ірына СЯМАШКА**

# Зачараваны вандроўнік

**Калі з'яўляешся актыўным наведвальнікам шматлікіх мастацкіх імпрэзаў, то міжволі пачынаеш заўважаць адрозненні ў іх арганізацыі. Так, збіраючыся на выстаўку «Дарогамі Паднябеснай» беларускага жывапісца Леаніда Уладзіміравіча Гоманава (не блытаць з Леанідам Міхайлавічам Гоманавым!), я чакала стандартных і зацягнутых выступаў мастацтвазнаўцаў, сяброў, гасцей.**
**Але, як толькі пераступіла парог галерэі «ЛаСандр-арт», зразумела, што адкрыццё экспазіцыі жывапісца будзе незвычайным. Гукі кітайскай народнай музыкі, дзяўчаты ў кітайскіх уборах, сушы — традыцыйная страва Паднябеснай і, безумоўна, карціны… з шыкоўнымі пейзажамі Кітая. Уся гэтая незвычайнасць проста паглынула. Літаральна кожнае палатно не адпускала ад сябе.**
**Пад уражаннем ад карцін пераконваешся: менавіта такіх мастакоў павінна ведаць наша краіна, і не толькі наша. У прыемнай размове Леанід Гоманаў распавёў пра сваё цікавае жыццё і творчасць.**

## «БЫВАЙ, ШПАНА ЗАМАСКВАРЭЦКАЯ»

Нарадзіўся я ў 1958 годзе ў Мінску. (Якраз тады ў Кітаі быў прыняты курс на ажыццяўленне "вялікага скачка" ў эканамічным, сацыяльным і культурным развіцці). Вучыўся ў розных школах: шмат пераязджалі. Дзяцінства прайшло ў раёне Грушаўкі, якую цяпер ужо не пазнаць. Праязджаў міма, хацеў паглядзець на свой дом — пазнаў толькі па назве вуліцы. Раней там былі настолькі характэрныя рэчка, крама, якую мы называлі «сіненькай», кінатэатр «Авангард», школа №4, дзе я вучыўся ў пачатковых класах, скверык, дзе мы з хлопцамі бавілі час. Глядзіш сучаснымі вачыма на мінулае — узнікае параўнанне тых часоў з фільмам «Бывай, шпана замаскварэцкая». Насілі такія ж кепкі, штаны, чаравікі. Але асабліва не шыкавалі. Мая маці Галіна Іосіфаўна выкладала беларускую мову і літаратуру. Увогуле, наша сям'я — цэлая дынастыя мастакоў: мой бацька Уладзімір Гоманаў — мастак-жывапісец, заслужаны дзеяч Рэспублікі Беларусь, і дачка мая, Ганна Гоманава, таксама мастачка.

Літаральна з першага класа хадзіў у секцыю плавання, але з-за вялікіх нагрузак (па 3 трэніроўкі ў дзень, плюс заняткі ў школе), не вытрымаў і адмовіўся займацца. Хоць на мяне ўскладалі вялікія надзеі: ужо ў 4 класе быў кандыдатам у майстры спорту, прадказвалі ледзь не Алімпійскую зборную. У старэйшых класах зноў захацелася ў спорт. Перабраў шмат секцый: шахматы, футбол, гімнастыка — спыніўся на акадэмічным веславанні. Акрамя таго, бацька завёў мяне ў наш гарадскі Палац піянераў, я наведваў самую знакамітую і прэстыжную на той момант студыю С. Каткова. Там былі закладзеныя асновы карыстання мастацкімі матэрыяламі, успрымання прыроды, навакольнага асяроддзя… З бацькам часта ездзілі на вёску: ён прывіваў мне любоў да працы, людзей, увогуле да жыцця. Вядома, падказваў, накіроўваў.

Пасля заканчэння школы трэба было рабіць выбар: ісці далей у спорт ці асвойваць нейкую прафесію. Разам з бацькам я рыхтаваўся да паступлення: маляваў і партрэты, і пейзажы, і аголеную натуру. Нарэшце ў 1976 годзе паступіў у Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут, які скончыў у 1982 годзе на аддзяленні станковага жывапісу, атрымаў кваліфікацыю мастак-жывапісец і спецыяльнасць мастак-жывапісец-педагог, што потым вельмі спатрэбілася.

Затым служба ў арміі, атрымаў званне старшага лейтэнанта запасу. Калі праходзіў курс маладога байца, давеадаліся, што маю вышэйшую мастацкую адукацыю і адразу далучылі да дзейнасці, звязанай з выяўленчым мастацтвам. Маляваў партрэты военачальнікаў, разнастайныя навучальныя карты, графікі, афармляў ленпакоі, распісаў пяць манументальных сцэн. Не сказаў бы, што гэта лёгка, таму што ў адрозненне ад іншых даводзілася працаваць і начамі. Усе адпачываюць, а я тэрмінова нешта раблю.

## ЗАДАЧА — НЕ ПЕРАЙМАЦЬ ЧУЖОЕ!

Пасля войска актыўна ўключыўся ў творчую дзейнасць, паставіў задачу ўступіць у Беларускі саюз мастакоў. І быў прыняты на конкурснай аснове ў 1989 годзе. Пайшло актыўнае творчае жыццё: рэгулярны ўдзел у выстаўках (маладому мастаку гэта неабходна: трэба было зарабляць аўтарытэт), але абавязкова пад наглядам старэйшых таварышаў. Маімі настаўнікамі былі мастакі Віктар Грамыка, Барыс Аракчэеў і інш.

У большай-меншай ступені я валодаю ўсімі жанрамі жывапісу: партрэт, пейзаж, нацюрморт, тэматычная карціна. У апошні раз выстаўляўся з тэматычнай карцінай «Супрацьстаянне» на выстаўцы, прысвечанай 600-годдзю Грунвальда. Палатно было выканана ў традыцыйнай манеры: за навізной не ганюся, як многія мастакі. Яны любяць пераймаць, а потым празмерна захапляюцца і… Задача мастака ўсё ж такі паказаць сваё майстэрства, удасканальваць-ца.

Мы ўсе ў працэсе вучобы выхоўваемся на класіцы. У далейшым я адкрыў для сябе такога мастака, як Карнэліа Баба. Гэты румынскі жывапісец вельмі моцна мяне ўразіў і натхніў. Але я ўзяў ад яго духоўны план, а не тэхніку. У тэхніцы лепш нікога не пераймаць — атрымліваецца копія. У якім бы жанры ты ні маляваў, лепш працаваць са сваёй тэхнікай і манерай, каб цябе пазнавалі па почырку.

У пачатку 2002 — 2003 гг. у мяне адбылася серыя персанальных выставак у Германіі. Пры гэтым рэгулярна ўдзельнічаў (і ўдзельнічаю) ва ўсіх рэспубліканскіх выстаўках. Але асабліва не захапляюся. Цяпер мастакі не імкнуцца выступаць паўсюль: шмат з'явілася экспазіцый. А вось на сур'ёзных выстаўках (адна-дзве ў год) трэба абавязкова паказаць сябе. 18 гадоў я адпрацаваў у Мінскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы. Потым быў перыяд самастойнай творчай працы. Тры гады таму мяне запрасілі ў Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка.

У 2011 годзе БДПУ заключыў пагадненне аб супрацоўніцтве з Паўночна-заходнім універсітэтам горада Ланчджоу правінцыі Ганьсу ў Кітаі. Па запрашэнні ўніверсітэта прыехала дэлегацыя. Ім вельмі спадабалася навучанне на нашай кафедры, папрасілі даслаць педагога ў Кітай на працу па акадэмічным абмене.


Фота Кастуся Дробава

## І НІВОДНАГА ПАНУРАГА КІТАЙЦА…

У Кітаі ўсё па-іншаму. Прыйшлося прывыкаць да зменаў у побыце і ў культуры. Ежа падобная, але адрозніваецца ў плане збалансаванасці. За стол раней галоўнага садзіцца нельга, жанчыны і мужчыны асобна, усё па нумарах і статусах — гэта цэлая цырымонія! Са мной працаваў рускі перакладчык, але не заўсёды ён быў патрэбны: практычна ўвесь час я не выкладаў, а рабіў майстар-класы. Працаваў на ўсіх курсах: збіралася па 50 — 100 чалавек, сядзелі, слухалі, фатаграфавалі ў поўнай цішыні.

Першае знаёмства з кітайскай прыродай пачалося па прыездзе. Не з аэрапорта, таму што там прырода з поўначы на поўдзень змяняецца: спачатку пустыня, потым лясы і зеляніна. З поўначы правінцыі Ганьсу пачынаецца Кітайская сцяна, а сама правінцыя знакамітая тым, што па ёй праходзіў Вялікі шаўковы шлях. З захаду пачынаецца Тыбет, а на ўсходзе ўжо Сіань — калыска кітайскай культуры. Адметна тое, што пры ўсёй урбанізацыі і ўздыме эканомікі ў Кітаі вельмі шануюць традыцыі. Ідзе вялікая і цікавая рэкламная прапаганда, з раніцы да вечара святы ў нацыянальных строях з песнямі. Вясёлыя, жыццярадасныя, аптымістычныя людзі. Што дзівіць: ніводнага панурага кітайца за год не ўбачыў, ніякай лаянкі не пачуў. Усмешкі ўвесь час.

Асабліва ўразілі мяне некалькі месцаў: Бі Лін Цы, рака Хуанхэ, скалы, вядомыя свету пячоры. Усім гэтым рэліквіям па 3 — 4 тысячы гадоў. Фатаграфаваць нельга, усё ахоўваецца. Асноўная частка работ напісана з месцаў Дзюджайгоу (у перакладзе: цясніна дзевяці вёсак) і Хуанлун. Гэта два запаведнікі, якія мяне натхнілі. Столькі інфармацыі, дзіўнай прыроды: горы, каскады вадаспадаў, азёры, туманы — усё ў навіну, трэба было пераасэнсаваць, адабраць матэрыял (бо з аднаго кутка запаведніка можна пісаць карціны ўсё жыццё), правільна і прыгожа падаць.

Атрымалася каля 20 карцін. Самая выпакутаваная з іх — «Свяшчэнныя горы. Хуашань». Увогуле кожную работу любіш па-свойму, яны як дзеці, нават кітайцы, калі з здымаў карціны з падрамнікаў, каб адвезці ў Беларусь, са слязьмі на вачах на гэта глядзелі. Я патлумачыў, што не магу прыехаць з пустымі рукамі. Нашым мастакам і наведвальнікам цікава будзе паглядзець на чужую культуру. Для нас Кітай — дзіўная казка, пачынаючы з палачак для ежы, заканчваючы лятучымі змеямі, феерверкамі, ліхтарыкамі, петардамі, якімі яны адганяюць злых духаў з любой нагоды. Цяпер гэтая краіна вабіць мяне, як зачараванага вандроўніка.

***

Майстэрства жывапісца і саму выстаўку пракаментаваў беларускі мастацтвазнаўца Мікалай Паграноўскі: «У Леаніда Гоманава вельмі добрае адчуванне каларыту мясцовасці, ён умее гэты каларыт перадаць на сваіх палотнах. А гэта неверагодна складана! Уявіце сабе: чалавек трапляе з раўніннай еўрапейскай паласы ў горную мясцовасць Кітая. Там іншая прырода, вібрацыя, паветра. Патрабуецца асаблівае цярпенне і жаданне назіраць. Калі згадаць будысцаў: яны медытуюць, глядзяць на прыроду і адчуваюць сябе яе часткай. У нейкай ступені Леаніду Гоманаву ўдалося наблізіцца да гэтага будысцкага разумення: чалавек — частка прыроды, якую ён назірае».

**Таццяна ШЫМУК**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»
Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ


**Юрыдычны адрас:** 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:** 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:** Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства** «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2637
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 05.09.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 3908
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686
13035
9770024468001